◂ № 24 (345) ◂ 21 чэрвеня ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час



ВАСІЛЬ БЫКАЎ
І РЫГОР БАКЛАНАЎ

Стар. 14–15

**ВОЛЬНАЕ СЛОВА СТАТКЕВІЧА З-ЗА КРАТАЎ**

На прэзентацыі кампаніі «Тыдзень палітвязня» жонка Мікалая Статкевіча Марына Адамовіч зачытвала выбраныя месцы з ягоных лістоў, якіх апошнім часам прыйшло нямала

Стар. 5

**БЕЛАРУС АЛЬБО П'Е, АЛЬБО ПРАЦУЕ**

Чым больш крызісны наш крызіс, тым больш беларусы п'юць. А калі крызіс сыходзіць ці, прынамсі, змякчаецца, то беларусы піць, як ні дзіўна, кідаюць

Стар. 6

**КРЫЗІС НА КАНІКУЛАХ**

Стар. 13

ISSN 2218-2144

**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**ВЫ ЯШЧЭ МОЖАЦЕ ПАСПЕЦЬ АФОРМІЦЬ ПАДПІСКУ НА II ПАЎГОДДЗЕ**

З НАГОДЫ




# ЦІ БУДЗЕ Ў БЕЛАРУСІ «НАРОДНАЕ АЎТО»?

Сяргей ПУЛЬША

**Наша краіна, нягледзячы на тое, што вытворчасць аўтамабіляў для народа ў ёй хранічна не прыжываецца, не кідае спробы стаць аўтадзяржавай. У чарговы раз падпісана пагадненне наладзіць у краіне зборку легкавікоў. Гэтым разам — не кітайскіх.**

Пагадненне пра арганізацыю ў нас вытворчасці аўтамабіляў маркі «Opel Corsa» для рынкаў Беларусі і Расіі падпісана ў Мінску па выніках перамоваў беларускага Саўміна з дэлегацыяй «General Motors». «Беларусь спецыялізуецца на вытворчасці машынабудаўнічай прадукцыі, але прыход на беларускі рынак кампаніі «General Motors» стане новай старонкай у аўтамабілебудаванні нашай краіны», — аптымістычна глядзіць у будучыню намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Пётр Пракаповіч.

Зборка «Opel Corsa», згодна з пагадненнем, пачнецца ў 2014 годзе. У перспектыве зборачнае прадпрыемства плануе выйсці на магутнасць 4–7 тысяч аўтамабіляў штогод. Фірма «Юнісон» пры непасрэдным удзеле спецыялістаў «General Motors» правядзе закупку, мантаж і наладку неабходнага абсталявання для пачатку зборкі новай мадэлі, а таксама арганізуе навучанне персаналу прынцыпам вытворчасці і кантролю якасці, прынятым на заводах GM. Гендырэктар «Юнісон» Дзмітрый Ягораў паведаміў, што акрамя вытворчасці аўтамабіляў мадэлі «Opel Corsa» разглядаецца таксама выпуск шэрагу аўтамабіляў маркі «Chevrolet».

Але ў Беларусі ўжо не першы раз правальваюцца аўтамабільныя праекты. Першую спробу зрабіць «народны аўтамабіль» здзяйсняў яшчэ ў час росквіту свайго бізнэсу Андрэй Клімаў. Менавіта ён вёў перамовы на пастаўкі ў Беларусь нямецкага «цуда-прэса» для выпуску кузаваў, але з прыходам да ўлады першага і сённяшняга прэзідэнта гэта дамоўленасць была сарваная.

У 1997 годзе ў Абчаку пад Мінскам, дзе зараз размяшчаецца СП ЗАТ «Юнісон», наладзілі зборку легкавых «Ford Escort» і мікрааўтобусаў «Ford Transit» пад кантролем беларускай фірмы «Лада ОМС». Планавалася збіраць 6 тысяч аўтамабіляў на год, але «Ford» са скандалам сышоў з рынку, кажучы, што працаваць яму не даюць.

Пасля няўдачы з «Ford», у 2004 годзе ў Абчаку вырашылі збіраць грузавічкі «Lublin–3». Гэты праект спрабаваў наладзіць ужо створаны «Юнісон». Планавалася выпусціць у 2004 годзе 1000 аўтамабіляў «Люблін–3», у 2005-м — 5000, а ў 2007 годзе мелі намер выйсці на ўзровень 10 тысяч машын. Разлікі на тое, што фургончык заваюе расійскі рынак, не апраўдаліся: ачуняў ГАЗ са сваёй «Газеллю», якая каштавала ў тры разы танней за беларускі аналаг.

У тым жа 2004 годзе беларускі ўрад стварыў праект па зборцы аўтамабіля «Samand» з іранскіх машынакамплектаў. Аднак, нягледзячы на падтрымку «адміністратыўнага рэсурсу», напрыклад, у 2009 годзе ўдалося прадаць усяго 281 легкавы аўтамабіль, у 2010-м — 369. Пры гэтым большасць аўтамабіляў рэалізоўвалася пры дапамозе адміністрацыйнага рэсурсу. «Samand» проста не купляўся. Нядаўна іранскі пасол сказаў, што гэты праект «замарожаны» і невядома, ці адродзіцца.

У 2011 годзе на тым жа заводзе ў Абчаку ў якасці эксперыменту сабралі з машынакамплектаў тры красоверы «Chery Riich X1». Пробныя асобнікі прадалі ў два разы танней за рынкавы кошт, і больш гэтыя машыны збіраць не плануюць.

З 2012 па 2015 год плануецца пабудаваць новы завод пад Барысавам па выпуску кітайскіх «Geely». Запланаваная стартавая вытворчая магутнасць завода — да 60 тысяч легкавых аўтамабіляў, а ў 2015–2016 гадах плануецца давесці магутнасць завода да 120 тысяч аўто. Праект пакуль не заглох.

Чаму ж зборка легкавікоў у Беларусі не прыжываецца? Бо мы ж нармальна збіраем аўтобусы, тралейбусы, грузавікі ды трактары. Спецыялісты кажуць: таму што Беларусь не вырашае праблему ў комплексе.

Зборка аўтамабіляў патрабуе пэўных маштабаў. Для гэтага трэба досыць вялікая вытворчасць, трэба выпускаць столькі аўтамабіляў, каб іх зборка была прыбытковай. Базы ЗАТ «Юнісон» для гэтага наўрад ці дастаткова. Другое пытанне — гэта стабільная пастаўка машынакамплектаў, з якіх робіцца аўтамабіль. І калі адна з умоваў не выконваецца, пра вытворчасць аўто можна забыцца.

Для таго, каб аўтамабіль лічыўся беларускім, трэба, каб краіна зборкі пачала сама выпускаць аўтамабільныя дэталі — прыкладна 40% да аўтамабіля. Але і з гэтым вялікія праблемы, якія не вырашаюцца. Можна было б пераарыентаваць МАЗ, але мы аддаём яго ў холдынг «Росбелаўта». Хіба што застаецца МТЗ, бо не ствараць жа легкавік на «Гомсельмашы»?

Потым, пасля вырашэння гэтых пытанняў, паўстае новае — рынкі збыту. Таксама праблема.

Як разлічваюць падпісанты пагаднення, аўтамабілі будуць вырабляцца для рынку Беларусі і Расіі. Але наўрад ці Расія будзе ад гэтага ў захапленні. У Расіі ўжо дастаткова такіх уласных вытворчасцяў. У Калінінградзе збіраюцца «BMW», «KIA», тыя ж аўтамабілі GM. Пад Масквой і ў Калузе — «Renault», «Citroen», «Wolksvagen». У Санкт-Пецярбургу — «Toyota» і «Nissan». Наогул жа расійскія аўтазаводы штогод вырабляюць звыш двух мільёнаў аўтамабіляў 24 розных марак і больш за 70 мадэляў.

Адзінае, на што можна разлічваць, — на ўнутраны рынак пры прымальным кошце аўтамабіля. У сувязі з пошлінамі Мытнага саюза і з плануемым уводам у дзейнасць так званага «ўтылізацыйнага збору» цяпер у Беларусі наогул праблема купіць любы замежны аўтамабіль.

А калі кошт аўтамабіля будзе непад'ёмным для беларускага пакупніка? Тады цалкам можа здарыцца тое ж самае, што і з беларускімі трактарамі, якімі біткам забітыя прылеглыя да МТЗ тэрыторыі.

Варта адзначыць, што пакуль нават прыкладны кошт «Opel Corsa» беларускай зборкі не называецца. У расійскіх аўтасалонах «Opel Corsa» каштуе прыкладна 14 500 доляраў.

СКАРГА

# СВАБОДНЫ ПРАФСАЮЗ ДЫСКРЫМІНУЕЦЦА

**Чальцы Свабоднага прафсаюза Беларускага (СПБ) Бабруйскага завода трактарных дэталяў і агрэгатаў (БЗТДіА) звярнуліся да гендырэктара МТЗ Уладзіміра Валчка з просьбай навесці парадак на бабруйскім прадпрыемстве, дзе, па іх словах, адміністрацыя ўзмацніла дыскрымінацыю работнікаў паводле прафсаюзнай прыналежнасці.**

Як сказаў БелаПАН старшыня пярвічкі СПБ на БЗТДіА, які з'яўляецца структурным падраздзяленнем МТЗ, Міхаіл Кавалькоў, у маі ўсе работнікі цэха №2 былі прэміраваныя адміністрацыяй за высокую культуру вытворчасці па выніках трох месяцаў на 200–300 тысяч рублёў. Пра гэта гаварылася ў інфармацыі, распаўсюджанай на заводзе. Аднак, атрымаўшы разліковыя лісты, высветлілася, што прэміі не распаўсюджваліся на чальцоў СПБ, хоць яны працавалі нароўні з астатнімі.



Фота www.spring96.org

Міхаіл Кавалькоў

Разам з тым з усіх без выключэння работнікаў былі ўтрыманы па 10 тысяч рублёў на рахунак Таварыства Чырвонага Крыжа, прычым зроблена гэта было без ведама саміх работнікаў.

«На працягу многіх месяцаў чальцы СПБ не заахвочваюцца з цэхавых фондаў за тое, што яны не ў тым прафсаюзе», — кажа Кавалькоў, указваючы, што ў калектыўным дагаворы, да абмеркавання якога не было дапушчана кіраўніцтва СПБ, таксама закладзены пазіцыі дыскрымінацыйнага характару.

Апрача таго, апошнім часам адміністрацыя актыўна шантажыруе работнікаў — чальцоў СПБ непрацягам працоўнага кантракта, калі яны застануцца ў шэрагах гэтага прафсаюза, сцвярджае прафсаюзны лідар, зазначаючы, што ўжо ёсць факты звальненняў менавіта з-за нязгоды пакінуць прафсаюз.

Зараз СПБ пазбаўлены офіса на заводзе. З 28 сакавіка пропуск Кавалькова заблакіраваны, і ён не можа трапіць на прадпрыемства для выканання сваіх функцый, нягледзячы на рашэнне суда забяспечыць Кавалькову, як старшыні пярвічкі СПБ, допуск да месцаў працы сябраў прафсаюза.

**БелаПАН**

МЫ НЕ ЗАБУДЗЕМ

**Згодна з Крымінальным кодэксам, у 2014 годзе заканчваецца тэрмін даўнасці прыцягнення да крымінальнай адказнасці асобаў, якія ўдзельнічалі ў гвалтоўным выкрадання Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Юрыя Захаранкі, у 2015 годзе — Дзмітрыя Завадскага.**




# ЁН РАЗУМЕЎ РАЗБУРАЛЬНЫ ЭФЕКТ БЕЗЗАКОННЯ

Зміцер ГАЛКО

Для таго, каб спісанне ў архіў не стала апошнім шматкроп'ем у «справе зніклых» і не растварылася ў грамадскім бяспамяцтве, маладзевае крыло «Беларускай хрысціянскай дэмакратыі» распачала кампанію «Мы не забудзем!».

Яе мэта палягае ў тым, каб не даць уладам закрыць, а грамадству — забыць знакавую справу. 18 чэрвеня ў мінскай сядзібе Партыі БНФ у рамках гэтай кампаніі адбылася вечарыне памяці Віктара Ганчара.

Вечарына аказалася далёка не «рытуальнай». Успаміны былі разнастайнымі. Ніхто не маляваў з Віктара Ганчара абраз — ён паўстаў перад прысутнымі ва ўсёй сваёй супярэчлівасці.

Не абмінулі пытання ўдзелу Віктара Ганчара ў прыходзе да ўлады Аляксандра Лукашэнкі, якога Віктар збіраўся «абмыць і пачысціць» пасля абрання. Казалі пра пэўную палітычную наіўнасць, недальнабачнасць і авантурнасць.

Дарэчы, упершыню Уладзімер Глод падзяліўся ўспамінам пра тое, што Ганчар запрасіў у тую самую лазню, каля якой ён потым і знік разам з Анатолем Красоўскім, яго і Валера Шчукіна. Абодва яны не змаглі прыняць запрашэнне. І цяпер Уладзімер занепакоена думае: можа, калі б усё ж такі прыйшлі, дык не адбылося б трагедыі? З іншага боку, разважае ён, тады зніклых магло б быць і болей.

Віктар Ганчар — не толькі ахвяра. У яго можна шмат чаму павучыцца, пра што казалі ўсе, хто згадваў яго 18 чэрвеня. Віктара немагчыма было купіць. Ні «хлебныя» пасады, ад якіх ён лёгка адмаўляўся, ні прапанаваныя кейсы з грашыма не прымусілі яго здрадзіць самому сабе. Ён умеў трымаць уладу ў напружанні, не гуляў па яе сцэнары, а ствараў свой, альтэрнатыўны. І ніколі, як сказаў Анатоль Лябедзька, не ішоў на «палітычнае плыткаводдзе», унікаў мышынай валтузні. Юры Хашчавацкі адзначыў такую яго рысу, як нежаданне даравацт беззаконне ў адносінах да сябе, але не з матываў асабістай помсты, а з разумення разбуральнага эфекту, якое яно мае для дзяржавы ў цэлым.

У пэўны момант вечарына памяціператварылася ў дыскусію пра тое, хто вінаваты ў сённяшнім стане нашай краіны. Улады? Апазіцыя? Інтэлігенцыя? Народ? І што раіць?

**Поўны варыянт артыкула чытайце на нашым сайце: novychas.info**

СУД

# СПРАВА ГАЙДУКОВА РАЗВАЛЬВАЕЦЦА

Сяргей ПУЛЬША

**Абвінавачанне «шпіёна» Андрэя Гайдукова можа быць перакваліфікаванае. Пра гэта заявіў журналістам старшыня КДБ Беларусі Валер Вакульчык.**



Адказваючы пытанні пра тое, што адбываецца за зачыненымі дзвярыма Віцебскага абласнога суда ў справе Гайдукова, Вакульчык выказаў упэўненасць, што там «усё нармальна». «Няма сумневаў, што ўсё будзе аб'ектыўна. Ніхто нічога хаваць не будзе, за выключэннем дзяржаўнай тайны», — адзначыў кіраўнік беларускага КДБ. Але, гаворачы пра магчымае пакаранне абвінавачанага, Вакульчык сказаў: «Гэта можа вырашыць толькі суд». Пры гэтым ён адзначыў, што «не факт, што гэта будзе артыкул 356».

Артыкул 356 КК (здрада дзяржаве) — гэта артыкул, па якім абвінавачваецца Гайдукоў зараз. А тое, што Вакульчык заявіў пра магчымую змену артыкула абвінавачвання, азначае, што «шпіёнская справа» правалілася.

У сувязі з заявай Вакульчыка праваабаронца Алег Волчак адзначыў: справа Гайдукова была настолькі дрэнна «згатаваная», што развалілася нават у закрытым судзе. «Вакульчык загаварыў пра перакваліфікацыю нездарма — таму што складу злачынства па «здрадзе радзіме» там няма. Няма там ніякага шпіянажу, а таму справа будзе перакваліфікаваная на іншыя, больш мяккія артыкулы», — мяркуе Волчак.

Зараз Гайдукову пагражае ад 7 да 15 гадоў зняволення. На думку Волчака, ёсць толькі два артыкулы Крымінальнага кодэкса, якімі ўлада можа скарыстацца ў «справе Гайдукова» і ўжыць адзін з іх. Гэта частка 2 артыкула 361 КК: «Заклікі да дзеянняў, накіраваных на шкоду знешняй бяспекі Рэспублікі Беларусь, яе суверэнітэту, тэрытарыяльнай недатыкальнасці, нацыянальнай бяспекі і абараназдольнасці», звернутыя да замежнай дзяржавы. Пакаранне — альбо арышт на шэсць месяцаў, альбо пазбаўленне волі да трох гадоў. Альбо яшчэ ні разу не апрабаваны ў справе артыкул 369-1 — «Дыскрэдытацыя Рэспублікі Беларусь». Па ёй выносілася шмат папярэджанняў, але нікога не судзілі. Яе санкцыі — арышт на тэрмін да шасці месяцаў ці пазбаўленне волі на тэрмін да двух гадоў.

Словы Вакульчыка пра тое, што Гайдукову могуць перакваліфікаваць абвінавачванне, Волчак тлумачыць двума фактарамі. Першы — знешнепалітычны. 24 чэрвеня павінна вырашацца пытанне, каб міністру замежных спраў Беларусі Уладзіміру Макею дазволілі ўезд у Еўрасаюз. «Акрамя гэтага, Лукашэнка ўсё ж такі чакае запрашэння ў Вільню на саміт «Усходняга партнёрства». Новыя палітвязні ў Беларусі зараз не ў тэму», — кажа Волчак.

Другі фактар — хваля салідарнасці, якая праявілася ў грамадстве пасля пачатку працэсу над Гайдуковым.

Вакульчык перад пачаткам працэсу над Гайдуковым казаў прэсе: «Я думаю, што пасля таго, як будзе абвешчана рашэнне суда, тыя людзі, якія яго абаранялі, апынуцца ў нязручным становішчы». Пакуль што ў нязручным становішчы аказваецца сам Вакульчык.

ПАМЯЦЬ

# СПРОБА ВАНДАЛІЗМУ Ў ФАЛЬВАРКУ КАЛІНОЎСКІХ

**Свіслацкія грамадскія актывісты Віктар Дзесяцік і Юрый Глебік, якія прыехалі 14 чэрвеня ў Якушоўку ўпарадкаваць тэрыторыю колішняга фальварка Каліноўскіх, убачылі на тэрыторыі сляды вандалізму ля крыжа, узведзенага ў памяць пра паўстанцаў 1863 года.**



Нагадаем, што ўжо дваццаць гадоў у Свіслачы і Якушоўцы ўвосень адбываюцца традыцыйныя мерапрыемствы па ўшанаванні памяці паўстанцаў 1863 года. У 1997 годзе ў Якушоўцы быў усталяваны мастацкі крыж, а летась свіслацкія грамадскія актывісты замянілі драўляную частку кампазіцыі.

Зараз грамадскія актывісты ўбачылі каля крыжа абпалены бел-чырвона-белы сцяжок, верагодна, што такім чынам хацелі падпаліць і прасмалены крыж. Была адкінутая ўбок і маленькая капліčка-шафка для свечак, што стаяла побач з крыжам.

Грамадскія актывісты Свіслачы ўпарадкавалі тэрыторыю сядзібы, пакасілі траву. Такая талака мясцовых актывістаў адбываецца штогод. Двойчы за гісторыю фэсту Дзень памяці паўстанцаў — у 2004 і 2012 гадах — яго ўдзельнікі падвяргаліся рэпрэсіям: штрафам і адміністрацыйным арыштам.

**spring96.org**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ДЭВАЛЬВАЦЫЯ БУДЗЕ. ПЫТАННЕ — КАЛІ?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Нацбанк заўсёды на вышыні. Калі ў ім кажуць пра адсутнасць умоў для дэвальвацыі нацыянальнай валюты, усе ўпэўненыя — яна будзе. Але гэтым разам нам сказалі, што яна ўсё ж абмяркоўваецца — як «спакойная і стрыманая». Пытанне толькі ў тэрмінах яе правядзення. Пакуль што ў Нацбанку кажуць — не бліжэйшым часам. Людзям яшчэ дадуць адпачыць спакойна.**

«Макраэканамічных перадумоў да паслаблення беларускага рубля няма. Як будзе развівацца сітуацыя да канца года, паглядзім, але пакуль перадумоў для дэвальвацыі, рэзкай дэвальвацыі беларускага рубля няма», — заявіў першы намеснік старшыні Нацбанка Тарас Надольны.

І працягнуў: «У далейшым, калі сітуацыя на валютным рынку будзе спрыяць моцнаму паслабленню рубля, то Нацыянальны банк будзе спакойна і стрымана каардынаваць гэты працэс для згладжвання рэзкіх ваганняў».

То бок, Нацбанк паспрабуе правесці «плаўную дэвальвацыю». Інакш — нельга. Інакш не прадаецца на экспарт наша прадукцыя, кошты на якую сталі вышэй за сусветную. Але момант для дэвальвацыі яшчэ проста не наступіў.

Словы банкіра Надольнага эксперты перакладаюць так: «Пакуль нам трэба яшчэ атрымаць шосты транш крэдыту АКФ ЕўрАзЭС і пачаць перамоўны працэс з МВФ. У залежнасці ад таго, чый крэдыт будзе атрыманы для рэфінансавання знешніх даўгоў і ўліванняў у павышэнне заробкаў, будзе залежаць і дэвальвацыйны працэнт у пачатку наступнага года, прычым не абавязкова аднамомантны. Чакайце зніжэння курсу рубля напачатку 2014 года».

У адзін голас з Надольным у сераду выступіла і старшыня нацбанка Надзея Ермакова. «Перадумоў для дэвальвацыі, такой, якая ў нас была ў 2011 годзе, няма», — сказала Ермакова. Але гэта не значыць, што не будзе іншай дэвальвацыі — спакойнай і плаўнай.

Пры гэтым Ермакова заявіла, што ў 2014 годзе можна будзе весці размову аб дэнамінацыі. Магчыма, чарговае скасаванне трох нулёў на беларускіх купюрах і супадзе з дэнамінацыяй. Пакуль людзі будуць разбірацца ў новых грошах і імкнуцца памяняць старыя купюры на новыя, — самы час «плаўненька» знізіць курс рубля. І ніхто нічога не заўважыць.

Так што падрыхтоўка грамадскай думкі да дэвальвацыі пачалася. Ды яна і не заканчвалася: беларусы добра навучаныя ў 2009 і 2011 гадах.

Да таго ж «свінню» Нацбанку падклала і Мінэканомразвіцця Расіі. Згодна з ягонымі планамі па павышэнні вытворчасці, у Расіі таксама плануецца правядзенне дэнамінацыі. Там таксама не вызначана, калі і наколькі знізіць рубель. Але, як вядома, куды Расія, туды і мы.

Пакуль што Нацбанк заняўся стрымліваннем росту грашовай масы. Як паведамляе Белстат, рэальны памер прызначаных пенсій (разлічаных з улікам змянення індэкса спажывецкіх цэн на тавары і паслугі) у траўні 2013 года ў параўнанні з красавіком 2013 паменшыўся на 0,5%.

Паводле звестак Белстата, у органах па працы, занятасці і сацыяльнай абароны ў траўні 2013 года на ўліку стаяла 2 523,4 тысячы пенсіянераў, сярэдні памер прызначаных ім пенсій склаў 1 898 тысяч рублёў.

Сярэдні памер пенсій па ўзросце склаў 1 970 тысяч рублёў, па інваліднасці — 1 737,3 тысячы рублёў, з нагоды страты карміцеля — 1 250 тысяч рублёў, сацыяльных пенсій — 897,8 тысячы рублёў.

Грошай няма, каб плаціць пенсіянерам. Экспарт зніжаецца, праблемы растуць. Але беларускі ўрад прымае ўсё новыя і новыя захады па адыманні параўнаўча сумленным спосабам грошай у насельніцтва. Гэтым разам у «багаценькіх» аўтааматараў.

Тое, пра што так шмат размаўлялі і пра што спрачаліся, адбылося. Ніжняя палата беларускага парламента прыняла адразу ў двух чытаннях праект закона аб узмацненні мер адказнасці за кіраванне транспартным сродкам у стане ап'янення. Законапраект прадугледжвае канфіскацыю аўтамабіля за паўторнае на працягу года кіраванне ў стане алкагольнага ап'янення. Пры гэтым канфіскацыя будзе распаўсюджвацца тым ліку на аўтамабіль, які не належыць самому п'янаму кіроўцу — за выключэннем выпадкаў угону.

Акрамя таго, будуць павялічаны штрафы за язду ў нецвярозым стане з 15–35 базавых велічынь да 50–100.

Тэрмін пазбаўлення волі за ДТЗ у стане ап'янення, у якім прычынена цяжкае цялеснае пашкоджанне ці загінуў чалавек, складзе ад 6 месяцаў да 7 гадоў. За гібель двух і больш чалавек у ДТЗ па віне нецвярозага кіроўцы будзе прадугледжваць ад 4 да 10 гадоў пазбаўлення волі. Пры гэтым ніякіх альтэрнатыўных варыянтаў пакаранняў за такія злачынствы ў кодэкс не ўводзіцца.

П'яным за руль зараз садзіцца вельмі небяспечна. Пяць мільёнаў рублёў мінімальнага штрафу — гэта сур'ёзна. Цікава толькі, наколькі зараз вырасце «такса» на хабар у «даішнікаў»?

Пакуль што папраўкі не ўступілі ў сілу. Яны павінны быць разгледжаны верхняй палатай парламента, затым паступяць на подпіс Лукашэнку. Але гэта — фармальнасці. Лукашэнка іх падпіша, гэта вядома. А таму і з верхняй палатай праблемаў не будзе.

Тым часам той жа родны Белстат падлічыў вынікі першага этапу сёлетняй барацьбы за ўраджай — пасяўной. Калі па выніках 1-га квартала 2013 года са стратамі спрацавалі 784 прадпрыемствы (51,3% ад агульнай колькасці сельгасарганізацый), то па выніках студзеня-красавіка іх было ўжо 813 (53,4%). Для параўнання, у студзені-красавіку 2012 года стратнымі былі 468 (30,7% ад агульнай колькасці) сельгаспрадпрыемства.

Але, як паведамляе Белстат, у такіх лічбах не ўлічваецца дзяржпадтрымка калгасам. Калі ж улічыць дзяржпадтрымку, то лічбы лепшыя. Стратнымі па выніках 4-х месяцаў працы было 41 сельгаспрадпрыемства (2,7% ад агульнай колькасці) супраць 21 (1,4%) за аналагічны перыяд 2012 года. Паводле дадзеных афіцыйнай статыстыкі, сума чыстай страты сельгаспрадпрыемства павялічылася ў 3,3 разы ў параўнанні са студзенем-красавіком 2012 года і дасягнула 687,2 мільярда рублёў.

Вось што азначае «закапаць грошы ў зямлю». Лічы, што больш паловы сельгаспрадпрыемстваў пры пераводзе іх на нармальныя рынкавыя рэйкі проста не выжывуць. Няма будзе з кім «Дажынкі» праводзіць.



## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### НАДЗЕЯ ЕРМАКОВА



Беларускі Нацбанк у валютнай палітыцы вырашыў «памерці з музыкай». Інакш не патлумачыш словы Надзеі Ермаковай адносна нашай далейшай палітыкі ў сувязях з міжнароднымі фінансавымі арганізацыямі.

Найперш, спадарыня Ермакова заявіла, што Беларусь не разлічвае на новы стабілізацыйны крэдыт ад Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС. Не плануе Нацбанк і супрацоўнічаць з Міжнародным валютным фондам, які, па яе словах, у адносінах да Беларусі захоўвае «не толькі жорсткія эканамічныя патрабаванні, але прад'яўляе і палітычныя прэтэнзіі».

«Вы ведаеце, што МВФ прад'яўляе да нас жорсткія патрабаванні, больш за тое — гэта (новая праграма МВФ) увязваецца з палітычнымі пытаннямі. Чаму мы павінны скакаць пад гэтую дудку?» — заявіла Ермакова журналістам, каментуючы перспектывы рэалізацыі ў Беларусі новай праграмы МВФ. «Мы павінны думаць сваёй галавой», — падкрэсліла кіраўнік НББ, кажучы пра прапанаваныя фондам жорсткія эканамічныя рэформы.

У гэтай сітуацыі «пытанне знешніх запазычанняў, размяшчэння еўрабондаў, не знята з парадку дня», сказала кіраўнік НББ, адзначыўшы, што ў самы бліжэйшы час Беларусь не плануе размяшчаць еўрабонды з улікам бягучай негатыўнай сітуацыі на сусветных фінансавых рынках.

Цікава, дзе ж спадарыня Ермакова плануе браць валюту? Экспарт жа ў нас — на нулі. Няўжо ёй пра гэта не паведамілі?

### АЛЯКСАНДР КАНЮК



Генеральны пракурор Беларусі Аляксандр Канюк выказаў незадаволенасць пазіцыяй асобных СМІ і праваабаронцаў адносна двух смяротных прысудаў, вынесеных у Беларусі на мінулым тыдні.

«Нядаўна былі вынесены два прысуды. Зноў пачалося выццё ў СМІ. Пра што яны выюць? Выюць пра лёс чалавека, які загубіў некалькі жыццяў. Але ніхто не пагаварыў з маці 22-гадовай забітай дзяўчыны, ніхто не пацікавіўся, як далей будуць жыць блізкія ахвяраў», — заявіў генпракурор.

«Вый пачаўся, але як выправіць злачынцу, калі ён адрэзаў галаву і ездзіў з ёй у сумцы па рэспубліцы? Што рабіць з нягоднікам, які нанёс 122 нажавых раненні сваёй ахвяры?» — заўважыў генпракурор. «Сёння ёсць зрух у тым, што мы больш клапоцімся пра злачынцаў, а не пра ахвяраў», — дадаў ён.

Якраз «праваабаронцы і асобныя СМІ» «выюць» пра ахвяраў і пра тое, што з расстрэлам вінаватых жыць блізкім ахвяраў прасцей не стане. А яшчэ яны «выюць» пра тое, што адзін з трох у гэтым годзе смяротных прысудаў быў вынесены чалавеку, які здзейсніў забойства проста ў месцы адбыцця пакаранняў. Лепш бы генпракурор патлумачыў, як у турмах вядзецца нагляд за законнасцю і як забойства стала магчымым пры пракурорскім кантролі над месцамі адбыцця пакаранняў.

### ГЛЕН ХЭНЛАН



Канадзец Глен Хэнлан афіцыйна стаў галоўным трэнерам нацыянальнай зборнай Беларусі па хакеі. Кантракт з ім падпісаны, паведаміў менеджар па сувязях з грамадскасцю і прэсай Беларускай федэрацыі хакея (ФХРБ) Арсеній Якавенка.

Працоўнае пагадненне з трэнерам уступае ў сілу 1 ліпеня і разлічана па формуле «2 +1». Кантракт падпісаны на два гады, а пры выкананні абавязацельстваў можа быць падоўжаны на тых жа ўмовах яшчэ на год.

Глен Хэнлан ужо распрацаваў і прадставіў праграму развіцця падрыхтоўкі нацыянальнай зборнай Беларусі да Чэмпіянату свету 2014 года ў Мінску. Згодна з умовамі кантракту, новы галоўны трэнер прыме ўдзел не толькі ў працы з нацыянальнай камандай, але і ў падрыхтоўцы стратэгіі развіцця маладзёжнага і юнацкага хакея ў Беларусі.

Чакаецца, што канадзец прыбудзе ў Мінск у канцы ліпеня — пачатку жніўня пасля канчатковага ўзгаднення праграмы падрыхтоўкі зборных каманд на сезон 2013/2014.

Глен Хэнлан ужо з'яўляўся галоўным трэнерам зборнай Беларусі на чэмпіянатах свету 2005, 2006 і 2009 гадоў. Пад яго кіраўніцтвам каманда двойчы выходзіла ў плэй-оф чэмпіянатаў свету (2006, 2009), а на ЧС–2006 у Рызе (Латвія) паказала лепшы вынік за час выступленняў на сусветных гульнях (6-е месца). Усяго пад кіраўніцтвам Глена Хэнлана зборная Беларусі правяла 32 матчы, у якіх атрымала 14 перамог, 3 разы згуляла ўнічыю і пацярпела 15 паразаў.

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# КАРУПЦЫЯ: ПАМІЖ ВЫПАДКОВАСЦЯМІ І ЗАКАНАМЕРНАСЦЯМІ

Сяргей НІКАЛЮК

**У любога карупцыйнага злачынства існуе канчатковая ахвяра. Гэта ахвяра — народ краіны.**

Чарговую «Азбуку паліталогіі» пачну з цытаты, запазычанай на галоўным дзяржаўным сайце: «Андрэй Кабякоў (кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі) адзначыў, што будаўнічая галіна застаецца адной з найбольш падлеглых карупцыйным рызыкам. «У сферы будаўніцтва існуе ценявая сістэма адкатаў практычна на кожным яго этапе, а таксама кругавая парука», — сказаў ён».

Адзін з абавязковых этапаў будаўніцтва — праектаванне. Для разумення нацыянальнай спецыфікі гэтага этапу зноў звярнуся па дапамогу да кіраўніка АП: «Рынак праектных, каштарысных, вышукальніцкіх прац усё больш коціцца ў ценявую сферу, а структураванне задач яго ўдзельнікаў набывае ярка выяўленыя рысы злачынных арганізацый».




Нагадаю чытачам НЧ, што яшчэ на першым Усебеларускім народным сходзе ў 1996 годзе будаўніцтва жылля нароўні з экспартам і харчаваннем было вызначана ў якасці трох прыярытэтаў сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі. За 17 гадоў адзін з прыярытэтаў ператвrouteрыўся ў пажыўнае асяроддзе для злачынных арганізацый. Што гэта — выпадковасць ці заканамернасць, спароджаная самой прыродай беларускай мадэлі?

## Без паўлітра не разабрацца

*«Новые угрозы и вызовы времени, в первую очередь связанные с борьбой с коррупцией в высших эшелонах власти»*. Аўтарства такога маштабнага абагульнення, спадзяюся, зразумелае. Ад сябе дадам, што ў шэрагу пагроз нацыянальнай бяспецы, карупцыя відавочна вырвалася ў лідары і пакінула далёка за сабой знешніх ворагаў і іх памагатых — «пятую калону».

Але карупцыя — гэта сфера адказнасці дзяржавы, тым больш што ў прыведзенай цытаце гаворка ідзе не пра побытавую карупцыю, а пра карупцыю «ў вышэйшых эшалонах улады». Такім чынам, галоўнай крыніцай небяспекі для беларускіх грамадзян з'яўляецца... беларуская дзяржава. З чым я і віншую чытачоў НЧ.

Без паўлітра і без тэарэтычнай мадэлі тут не разабрацца. Але практычнымі навыкамі самагонаварэння я не валодаю, таму адразу перайду да тэарэтычнай мадэлі.

Прынцыпал-агенцкая мадэль, распрацаваная інстытуцыянальнымі эканамістамі, апісвае не столькі карупцыю «наогул», колькі карупцыйныя паводзіны. Першы персанаж гэтай мадэлі — прынцыпал (начальнік). Яго характарызуюць дзве ключавыя ўласцівасці: наяўнасць пэўных задач і рэсурсы для іх выканання.

Але прынцыпал, як правіла, не ў стане распарадзіцца ўсімі сваімі рэсурсамі самастойна, таму ён вымушаны падзяліць задачу на фрагменты і даручыць іх выкананне іншым персанажам мадэлі — агентам (падначаленым).

Пры далучэнні агентаў да вырашэння задачы прынцыпал вымушаны перадаваць агентам і частку рэсурсаў. Натуральна, ён спрабуе ўзяць выдаткаванне рэсурсаў пад асабісты кантроль. Эфектыўнасць кантролю, аднак, абмяжоўваецца асіметрыяй інфармацыі, якая ўзнікае паміж прынцыпалам і яго агентамі з прычыны спецыялізацыі апошніх. Д'ябал мае звычку хавацца ў дэталях, а для прапрацоўкі дэталяў якраз і патрэбныя агенты.

Выкарыстанне агентамі рэсурсаў прынцыпала ў асабістых мэтах пад прыкрыццём асіметрычнага размеркавання інфармацыі прынята называць «апартуністычнымі паводзінамі». Такія паводзіны і ёсць карупцыя ў чыстым выглядзе. Карупцыя — гэта заўсёды здрада, бо агент выкарыстоўвае рэсурсы прынцыпала не для вырашэння яго задач, а для рашэння сваіх уласных, г. зн. ён крадзе рэсурсы прынцыпала.

Зразумела, асіметрычнае размеркаванне інфармацыі не варта разглядаць у якасці адзінай прычыны карупцыі. Не варта забываць і пра недасканаласць прынцыпала. Растлумачу цытатай з сацыёлага Георгія Сатарава: «Што такое традыцыйны кіраўнік? Гэта той, хто лічыць, што ён лепшы за ўсіх. Таму яму не прыйдзе ў галаву, што ён няправільна паставіў задачу, што ён непрадумана перадаў агенту рэсурсы, што ён не ўмее выкарыстоўваць інфармацыю і памяншаць яе асіметрыю. І прызначаную ім узнагароду ён, вядома, лічыць абсалютна правільнай».

## «Дурная бясконцасць»

Прынцыпал, безумоўна, здагадваецца пра схільнасць сваіх агентаў да апартуністычных паводзін, і таму імкнецца зменшыць асіметрыю інфармацыі. Ён уводзіць кантроль за агентамі. Зразумела, яго асабістыя магчымасці ў якасці кантралёра абмежаваныя. Таму ў прынцыпал-агенцкую мадэль ён уводзіць дадатковага персанажа — агента кантролю.

Апусцімся з тэарэтычнай вяршыні на грэшную зямлю. 7 чэрвеня адзіны паліт. (АП) наведаў Аператыўна-аналітычны цэнтр. Пра мэты і задачы гэтай спецыфічнай арганізацыі можна даведацца на яе сайце: «ААЦ з'яўляецца дзяржаўным органам, які здзяйсняе рэгуляванне дзейнасці па забеспячэнні абароны інфармацыі, што змяшчае звесткі, якія складаюць дзяржаўныя сакрэты Рэспублікі Беларусь ці іншыя звесткі, што ахоўваюцца ў адпаведнасці з заканадаўствам, ад уцечкі па тэхнічных каналах, несанкцыянаваных і ненаўмысных уздзеянняў».

Сам факт існавання арганізацыі з падобнымі мэтамі і задачамі ў наша інфармацыйнае стагоддзе не павінен здзіўляць. Але што канкрэтна прывяло АП у ААЦ, здагадаліся? Ну, вядома, — барацьба з карупцыяй у вышэйшых эшалонах улады. У тым ліку і для супрацьстаяння гэтаму злу спатрэбілася стварэнне *«интеллектуально сильной, мобильной и независимой от корпоративных интересов и внешнего давления структуры»*, якая схавалася за абрэвіятурай з трох літар.

Тут неабходнае тлумачэнне. Агенты кантролю прынцыпова ні чым не адрозніваюцца ад агентаў, якіх яны кантралююць. Гэта азначае, што адносіны паміж прынцыпалам і агентам кантролю маюць недахопы, апісаныя вышэй, напрыклад, асіметрыю інфармацыі. Агент кантролю ведае, што робіць падкантрольны яму агент, а прынцыпал не ведае. Таму заўсёды існуе верагоднасць змовы за спіной прынцыпала, і апошняму нічога не застаецца, як уводзіць кантроль над агентамі кантролю.

Так запускаецца «дурная бясконцасць», якая натхніла ў свой час невядомага паэта:

*У блох свои блошата есть,*
*И блох плодят они там.*
*У тех своих блошат не счесть,*
*И так ad infinitum* (да бясконцасці).

Нескладана здагадацца, што ўнутраны кантроль практычна не вырашае праблему асіметрыі інфармацыі, а толькі прыводзіць да росту выдаткаў. Вось і даводзіцца прынцыпалу звяртацца да розных тэхнічных хітрыкаў. Найбольш папулярны — ратацыя агентаў кантролю. Прывяду фрагмент чэрвеньскага прэс-рэлізу, прысвечанага прызначэнню «галоўных інспектараў па абласцях»: «Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што наўмысна адпраўляе ў Брэсцкую і Гродзенскую вобласці людзей, якія не знаёмыя блізка з працай гэтых рэгіёнаў, з той мэтай, каб не было кругавой парукі, каб інспектар ніяк не быў звязаны з кіраўніцтвам вобласці».

Гэта значыць, што першапачаткова поўнага даверу да сваіх *«глаз и ушей на конкретной территории»* АП не мае! І таму, робячы наказы сваім асабістым прадстаўнікам у абласцях, ён вымушаны быў падкрэсліць, што *«помогать вам никто не будет, вы практически работаете в одиночку»*. Як тут ні прыгадаць легендарнага Штырліца з «Сямнаццаці імгненняў вясны».

## «Мы, народ Рэспублікі Беларусь…»

Сіла беларускай дзяржавы — у вертыкалі ўлады, якая эфектыўна функцыянуе. Такая афіцыйная версія. Паводле ж прынцыпал-агенцкай мадэлі, вертыкаль улады — гэта своеасаблівая матрошка, у якой кожны кіраўнічы ўзровень варта разглядаць у якасці агента для вышэйшага ўзроўню і прынцыпала — для ніжэйшага. Адпаведна, кожны ўзровень спараджае сваю асіметрыю інфармацыі.

Зноў звярнуся па дапамогу да Георгія Сатарава: «Гэтак жа, як трэнне з'яўляецца непераадольнай праблемай механічных прыладаў, так і дэфекты прынцыпал-агенцкай мадэлі з'яўляюцца неад'емнай праблемай кіраўнічых структур. І вось што важна: вертыкальныя бюракратычныя структуры памнажаюць праблемы вертыкалі, павялічваюць выдаткі на пераадоленне гэтых праблем і павялічваюць верагоднасць карупцыі. Калі гэту тэндэнцыю працягнуць, то вертыкаль можа дасягнуць такога памеру, што яе кіраўнічая эфектыўнасць звядзецца да нуля. І больш за тое, гэта вертыкаль ператворыцца ў гіганцкую праблему для ўсяго, што знаходзіцца па-за яе межамі».

Прыклад такой некіравальнасці і дэманструе будаўнічы комплекс. Гэта не мая ацэнка. Гэта ацэнка АП: *«Ситуация в строительстве не просто настораживает, а складывается критической. И не только потому, что у строителей недостаточные объемы, вопрос в том, что какое направление ни возьми — в строительстве полный обвал, начиная от неудовлетворенности граждан сроками, качеством и стоимостью строительства и заканчивая той коррупцией, в которой погрязла вся отрасль»*.

У карупцыі заўсёды ёсць ахвяра. Здавалася б, з дапамогай прынцыпал-агенцкай мадэлі яе персаніфікацыю вылучыць нескладана. Аднак не ўсё так проста. Адкрыем Канстытуцыю. Яе прэамбула пачынаецца са слоў: *«Мы, народ Рэспублікі Беларусь…»* Вы ўсё зразумелі? Па нашай Канстытуцыі, у кіраўніка дзяржавы ёсць прынцыпал. Гэта народ, які яго абірае.

Любая службовая асоба, якое б месца ва ўладнай вертыкалі яна ні займала, з'яўляецца агентам народа. Ад яго яна ў канчатковым выніку і атрымлівае рэсурсы — як уладныя, так і матэрыяльныя. Таму ў любога карупцыйнага злачынства існуе канчатковая ахвяра. Гэта ахвяра — народ краіны.

Ніякія сілы, сканцэнтраваныя ў асяроддзі ўладнай (бюракратычнай) вертыкалі, ад ролі ахвяры пазбавіць народ не могуць. Як тут ні прыгадаць вызначэнне дэмакратыі, што даў у свой час АП: *«Народ осуществляет реальную демократию, избирая главу государства и законодательную власть. После этого глава государства и депутаты должны действовать в рамках Конституции. Вот и вся демократия»*.

Усё лагічна. Менавіта такі тып дэмакратыі і рэалізаваны ў Беларусі. Народ абраў кіраўніка дзяржавы і палічыў, што свой абавязак прынцыпала ён на гэтым вычарпаў. Міжволі згадваюцца пачатковыя радкі «Інтэрнацыяналу»: *«Никто не даст нам избавления* (у тым ліку і ад карупцыйных пабораў)*, ни Бог, ни царь и ни герой…»*

САЛІДАРНАСЦЬ

# ПАЛІТВЯЗНІ: КОЖНАМУ — ТЫДЗЕНЬ

Сяргей ПУЛЬША

**Ад 17 ліпеня ў Беларусі пачалася новая хваля салідарнасці з палітзняволенымі. Гэтым разам яе абвясцілі сваякі і родныя «палітычных» і камітэт абароны рэпрэсаваных «Салідарнасць». Кампанію можна назваць новай, цікавай і працяглай.**



Кіраўнік камітэта «Салідарнасць» Іна Кулей

Як распавяла журналістам на прэзентацыі кампаніі кіраўніца «Салідарнасці» Іна Кулей, людзі, якія несправядліва знаходзяцца за кратамі, патрабуюць штодзённай падтрымкі — нягледзячы на лета і час адпачынкаў. Менавіта таму, што зараз — лета, і трэба нагадаць людзям пра тых, хто гэта лета пабачыць толькі з-за кратаў.

Сама кампанія носіць назву «Тыдзень салідарнасці». Але гэта не значыць, што праходзіць яна будзе толькі тыдзень. Тыдзень — гэта шырокае інфармаванне пра аднаго з палітзняволеных. Калі тыдзень заканчваецца, надыходзіць чарга іншага палітвязня, пра якога таксама будуць распавядаць увесь наступны тыдзень.

Па словах Іны Кулей, гэтая кампанія адметная тым, што людзям не будуць казаць звыклыя рэчы пра палітвязняў. Бо народ і так ведае, што ёсць палітвязні, за што яны сядзяць. Збольшага нават ведаюць, у якіх умовах. Задума гэтай кампаніі — паказаць палітзняволенага як асобу, як чалавека.

«Мы, канешне, будзем казаць і прасіць, каб людзі пісалі словы падтрымкі палітвязням у турмы. Мы разнясем па офісах дэмакратычных структур адмысловыя паштоўкі, створаныя нашымі дызайнерамі для палітвязняў. Мы таксама разнясем і канверты з іх адрасамі, каб кожны наведнік дэмакратычнай структуры мог бы напісаць ім ліст. Але гэта не галоўнае. Галоўнае — на нашым сайце salidarnasc.org. На ім кожны дзень будуць з'яўляцца цікавыя факты з біяграфіі палітычных зняволеных. Каб людзі маглі мець уяўленне пра палітвязня як чалавека», — адзначыла Кулей.

Першы «Тыдзень палітвязня» ўжо распачаўся. І пачаўся ён з Міколы Статкевіча. Былога вайскоўца, лідара аргкамітэта па стварэнні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), былога кандыдата ў прэзідэнты. У першым аповедзе «Пяць прычын напісаць Міколу Статкевічу» распавядаецца, як узнікла «Беларускае згуртаванне вайскоўцаў», кіраўніком якога быў Статкевіч, чым яно займалася і чаго дасягнула.

Першапачаткова падаецца, што гэтая гісторыя на сайце — вельмі сухая і амаль што статыстычная, як калонка ў энцыклапедыі. Але тым, хто зацікавіцца дзейнасцю БЗВ больш падрабязна, сапраўды варта напісаць ліст за краты ягонаму кіраўніку. І Статкевіча на ўспаміны прабʼе, і пачуваць сябе ён будзе менш закінутым, і ўспаміны пра БЗВ «ад першай асобы» сапраўды цікавыя і карысныя. Чым не нагода пачаць ліставанне?

Бо для чаго існуюць лісты? Для таго, каб вязень не адчуваў сябе «забытым», кажа Іна Кулей.

Жонка Статкевіча Марына Адамовіч таксама казала, што палітвязні вельмі рады простым чалавечым рэчам, простай чалавечай увазе. Бо вядома, што турма — не курорт, аднак нават дробныя рэчы, якія вязню здаюцца святам, у нас могуць выклікаць тут, на волі, жудасць. У гэтую спякоту, прыкладам, у турэмным дворыку для прагулак ёсць толькі адно месца, куды свеціць сонейка. І ў гэтым месцы Статкевіч са сваім сукамернікам гуляюць па чарзе, па раскладзе. Толькі каб заспець сонца, якога больш яны не бачаць. У прагулачны дворык заляталі неяк хрушчы, але вылецець назад не маглі — сетка не дазваляла. І палкоўнік Статкевіч збіраў іх, каб выпусціць на волю праз вечкі турэмнай камеры... Такія вось простыя радасці жыцця ў зняволенага.

Тыдзень палітвязня, канешне, закране не толькі беларусаў. Ініцыятары кампаніі звярнуліся і да еўрапейскіх чыноўнікаў і дэпутатаў, каб яны таксама нейкім чынам падтрымалі палітвязняў. Прыкладам, паведаміла Іна Кулей, у падтрымку Статкевіча выказаўся ўжо Марцін Шульц — старшыня Еўрапарламента. Шульц, дарэчы, асабіста знаёмы са Статкевічам, і заявіў, што Еўрапарламент будзе патрабаваць не проста вызвалення палітвязняў, але і поўнай іх рэабілітацыі.

Заканчвацца «Тыдзень палітвязня» будзе сяброўскай размовай ахвотных людзей з роднымі палітзняволеных. Такія размовы будуць ладзіцца штопятніцу на офісе Руху «За свабоду». Адпаведна, першая размова — з жонкай Статкевіча Марынай Адамовіч.

«За дзевяць тыдняў, што ў нас засталіся да канца жніўня, мы паспеем распавесці пра дзевяць палітзняволеных. Але ж іх у нас больш, чым дзевяць. Мы вызнаем палітвязнямі і тых, каму вынесеныя не проста прысуды за ўяўную палітычную дзейнасць, але палітычна матываваныя прысуды. Мы лічым, што і такія людзі, прысуд якім быў абумоўлены палітычна, з'яўляюцца палітзняволенымі. Акрамя таго, пакуль мы праводзім кампанію салідарнасці з дзейснымі палітвязнямі, можа з'явіцца ў нас і яшчэ адзін — «віцебскі шпіён» Андрэй Гайдукоў. Ягоны працэс можна таксама лічыць палітычна матываваным», — кажа Іна Кулей.

Такім чынам, кампанія «Тыдзень палітвязня» наўрад ці спыніцца пасля жніўня. Яна, хутчэй, захопіць і верасень.

РОЗДУМ

# ВОЛЬНАЕ СЛОВА СТАТКЕВІЧА З-ЗА КРАТАЎ



Мікалай Статкевіч

Сяргей ПУЛЬША

**На прэзентацыі кампаніі «Тыдзень палітвязня» жонка Мікалая Статкевіча Марына Адамовіч зачытвала выбраныя месцы з ягоных лістоў, якіх апошнім часам прыйшло нямала. Да таго ж Мікола тэлефанаваў ёй — раз на месяц, на што мае права.**

Былы кандыдат у прэзідэнты не губляе сувязі з рэальнасцю. Ён выдатна ведае, што адбываецца ў краіне, балазе, да яго даходзяць некаторыя газеты. Час ад часу ёсць магчымасць і паглядзець тэлевізар. Пэўныя навіны выклікаюць у Мікалая Статкевіча рэфлексію і развažанні.

Так, напрыклад, Мікалай Віктаравіч прачытаў у газеце «Беларусы і рынак» пра спрэчную выснову ў «дакладзе Палецкіса» аб паляпшэнні сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі ў 2012 годзе.

«Прачытаў пра даклад Палецкіса. Здзівіла яго тэза пра «паляпшэнне сітуацыі» ў 2012 годзе. Наколькі я памятаю, у гэты год чатыры з «палітычных» былі рашэннямі судоў пераведзеныя з калоній у турмы. А гэта істотнае пагаршэнне сітуацыі для нас. Напрыклад, у савецкія часы адзін дзень у турме (у СІЗА) залічваўся за два дні ў калоніі. Я ўжо не кажу пра той ціск, які прыйшлося вытрымаць большасці з нас. Калі гэта — «паляпшэнне», то што тады «пагаршэнне»? Такое ўражанне, што спадар Палецкіс дбае не пра паляпшэнне сітуацыі тут, а пра аб'ёмы перавалкі грузаў Клайпедскага порта. У лепшым выпадку».

Праз нейкія адмысловыя турэмныя інфармацыйныя каналы Статкевіч даведаўся пра ініцыятыву бабруйскіх актывістаў напісаць лісты да Яўгена Васьковіча з прапановамі яму падпісаць прашэнне аб памілаванні. Гэтая прыватная ініцыятыва ў сацыяльных сетках павялічылася, і нехта выкінуў на абмеркаванне ідэю напісаць лісты ўсім палітвязням і ўгаворваць іх адмовіцца ад прынцыповай пазіцыі не прызнаваць сябе вінаватымі і напісаць прашэнне аб памілаванні да Лукашэнкі. Маўляў, лепш быць на волі, чым у турме, і для гэтага любыя сродкі добрыя.

Вось што з гэтай нагоды ён напісаў: «Наконт ініцыятывы папрасіць «палітычных», каб яны «папрасіліся». Мне здаецца, што ў нас і так ужо было зроблена розных гнюснасцяў «по просьбам трудящихся» аж зашмат. Час спыніцца».

Па гэтай тэме Статкевічу спадабаліся каментары шэрагу прадстаўнікоў грамадскасці ў «Народнай Волі». Асабліва ён вылучае словы Уладзіміра Арлова, якія, адзначыў Мікалай Віктаравіч, цалкам супадаюць з яго пазіцыяй, бо сказана ж было: «...а гонар — нікому».

На пытанне «Народнай Волі», ці трэба заклікаць палітвязняў напісаць прашэнне аб памілаванні, Арлоў адказаў так: «Ніхто за палітвязня не мае права вырашаць гэтую праблему. Я ўпэўнены, што збярыце вы мільёны подпісаў, каб Мікола Статкевіч напісаў прашэнне, але асабіста для яго гэтыя подпісы нічога не будуць значыць».

Чуў Статкевіч і пра планаванае размяшчэнне расійскай авіябазы ў Беларусі: «Па БТ даведаўся пра авіябазу. Ізноў «наклонили». Нафтавы баланс цяпер, мабыць, падпішуць. Але грошы праядуцца, а потым прыйдзе час новага балансу. І што далей?»

Вяртаючыся да свайго нядаўняга эсэ пра нацыянальную ідэю для Беларусі, Статкевіч адзначае, што яго нібыта пачула ўлада. «Па АНТ бачыў кароткі фільм пра беларускую шляхту. Фільм неблагі. Дарэчы, шмат у чым перасякаецца з маім мінулым эсэ. Хацелася б верыць, што гэта — прыкмета новай інфармацыйнай палітыкі дзяржавы, а не выпадковасць».

Не пакідае былы кандыдат у прэзідэнты і сітуацыю ў апазіцыі. У прыватнасці, яе падзел паводле пытання пра ўдзел альбо няўдзел у выбарах. Сам ён заўсёды быў прыхільнікам удзелу.

«Насамрэч, у прыхільнікаў удзелу ў выбарах і ў «байкатыстаў» шмат агульнага. І тыя, і тыя аднолькава ацэньваюць нашу выбарчую сістэму. Асноўныя мэты на выбарах у іх таксама аднолькавыя: падвышэнне аўтарытэту дэмсіл і збор доказаў парушэнняў падчас кампаніі для беларускай і міжнароднай грамадскасці. Розніца толькі ў структуры і матывацыі кампаній. «Байкатысты» пры правядзенні кампаніі байкоту і назірання абапіраюцца на партыйныя ці грамадскія структуры, прыхільнікі ўдзелу ў выбарах — на каманды кандыдатаў. У другім выпадку матывацыя арганізатараў і ўдзельнікаў кампаніі непараўнальна мацнейшая. Кандыдаты і блізкія да іх актывісты асабіста зацікаўленыя ў якаснай агітацыі і назіранні. Бо хочуць калі не перамагчы (а многія чамусьці пачынаюць верыць у рэальнасць гэтага), то хаця б не зганьбіцца перад суседзямі і знаёмымі.

Я ўжо не кажу пра міжнародных назіральнікаў. Ужо можна прымусіць іх папрысутнічаць на выбарчых участках падчас падліку галасоў (памятаю, колькі часу і намаганняў прышлося змарнаваць мне на гэта ў пачатку «нулявых»), але прымусіць міжнароднага назіральніка сядзець 12 гадзін без перапынку на выбарчым участку і лічыць выбаршчыкаў, чаго патрабуе байкот, — абсалютна не рэальна.

Мне аднойчы паказалі аднаго англічаніна, які некалі здзейсніў такі подзвіг на выбарах у Албаніі і страшэнна ганарыўся гэтым. Праўда, на маю просьбу паўтарыць гэта ў нас ён адказаў катэгарычнай адмовай. Такі подзвіг здзяйсняецца толькі раз на жыццё.

Увогуле, асабістая матывацыя — гэта вялікая сіла. Дастаткова сказаць, што няўлік асабістай матывацыі і прывёў да паразы камунізму перад капіталізмам».

▸ РЭЙТЫНГ ДЭГРАДАЦЫІ

# БЕЛАРУС АЛЬБО П’Е, АЛЬБО ПРАЦУЕ

Сяргей ПУЛЬША

**Як ні змагаецца наша дзяржава з алкагалізацыяй насельніцтва, усе гэтыя высілкі марныя. Беларусь патрапіла нават у сусветную статыстыку як адна з самых «п’яных» нацый свету.**

Часопіс «The Economist» склаў рэйтынг спажывання гарэлкі ў сярэднім на душу насельніцтва. Дадзеныя былі атрыманыя ў брытанскай кампаніі IWSR (International Wine & Spirit Research), якая займаецца даследаваннямі сусветнага рынку алкаголю.

Паводле рэйтынга, сярэдняе спажыванне гарэлкі ў нашай краіне склала 11,3 літра алкаголю на чалавека ў год. Першае месца рэйтынгу стала ўтрымлівае Расія з сярэднегадавым спажываннем алкаголю 13,9 літра на чалавека. Трэцяе месца дасталася Украіне, а чацвёртае — Польшчы.

Паводле абсалютных аб’ёмаў спажывання непасрэдна гарэлкі Беларусь займае шосты радок рэйтынгу.

Чаму ж беларусы п’юць? Бо смачна?

Сусветная арганізацыі аховы здароўя вызначае крытычны ўзровень спажывання алкаголю — 8 літраў на чалавека ў год у пераліку на абсалютны алкаголь на кожнага жыхара краіны ва ўзросце 15 гадоў і старэй. «У выпадку перавышэння дадзенай рысы адбываецца паступовая дэградацыя нацыі ў дэмаграфічным, сацыяльным, эканамічным і культурным стаўленні, значна пагаршаецца стан яе здароўя і генафонд», — кажа САЗ.

Адмыслоўцы сведчаць, што «забараняльныя» меры па продажы нейкіх спецыфічных відаў алкаголю і павышэнне на яго коштаў даюць свой эфект. Прыкладам, пасля забароны на «пладова-выгадныя» віна іх спажыванне скарацілася на 30%. Беларусы зараз аддаюць перавагу больш дарагому, але больш якаснаму алкаголю.

Медыкі прапаноўваюць і надалей уводзіць «абмежавальныя меры». Прыкладам, ёсць прапанова не прадаваць алкаголь маладым людзям, якія не дасягнулі 21 года. Пазбавіць алкагольнай прадукцыі прыватныя шапікі і маленькія крамы, перанесці гандаль моцнымі спіртнымі напоямі ў буйныя гандлёвыя цэнтры за горадам, каб зрабіць выбар на карысць гарэлкі менш даступным. Пакінуць гарэлку толькі ў барах і рэстаранах, дзе кошты, канешне ж, значна вышэйшыя за «розніцу».

Але хто хоча выпіць, той заўсёды знойдзе магчымасць. І аднымі забаронамі тут не абыдзешся.

На дапамогу для вырашэння гэтай праблемы да нас прыходзіць статыстыка Белстата. Згодна з ёй, ва ўжыванні алкаголю вінаваты, найперш, крызіс. І чым больш крызісны наш крызіс, тым больш беларусы п’юць. А калі крызіс сыходзіць ці, прынамсі, змякчаецца, то беларусы піць, як ні дзіўна, кідаюць.

Паводле дадзеных Белстата, найбольшы пік ужывання алкаголю за апошнія гады прыйшоўся на крызіс 2011 года. За гэты год беларусы набылі на 18,1% больш алкаголю, чым за перадкрызісны 2010-ы. Гэта вельмі вялікі прырост. Цікава, што, нягледзячы на крызіс, лідарамі росту сталі нятанныя алкагольныя напоі: спажыванне лікёра-гарэлачнай прадукцыі вырасла на 33,6%; каньякі, уключаючы каньячныя напоі і брэндзі, сталі ўжываць на 28,9% больш; продажы вінаў пеністых, уключаючы шампанскае, выраслі на 26,3%; продажы гарэлкі павялічыліся за год на 19,3%, а піва — на 11,5%.

Сітуацыя крыху выправілася ў 2012 годзе. Калі ў 2011-м «узровень алкагалізацыі» дасягаў 13,4 літра алкаголю на душу насельніцтва, то ў 2012-м — 12,57. Як толькі крызісныя з’явы мы перажылі, то спажыванне алкаголю знізілася на душу насельніцтва амаль на літр! Гэта, праўда, без уліку незарэгістраванага алкаголю, доля якога, па дадзеных спецыялістаў, можа вагацца ад 30 да 60%. У структуры спажыванага ў 2012-м спіртнога пераважаюць моцныя напоі — гарэлка і лікёра-гарэлачныя вырабы (68%).




Зараз жа Белстат радуе. У студзені-маі бягучага года рэалізацыя алкагольнай прадукцыі скарацілася на 11,6% у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года. У гэтым годзе за пяць месяцаў было прададзена 4 мільёны 348,6 тысячы дэкалітраў гарэлкі, у агульным аб’ёме продажаў алкаголю яе доля склала 48,1%. У 2012 годзе гэты паказчык складаў 50,6%.

Ці азначае гэта, што беларусы «выпраўляюцца»? На жаль, не. Паводле дадзеных таго ж Нацыянальнага статыстычнага камітэта Рэспублікі Беларусь, аб’ём продажу ўсіх відаў алкагольных напояў павялічыўся з 1995 года з 6,7 літраў «на асобу» да 12 літраў у разліку на душу насельніцтва сёння.

Як сведчыць статыстыка, чым вышэй у людзей узровень жыцця, чым больш яны ім задаволеныя, чым стабільней сітуацыя ў эканоміцы і чым больш у чалавека перспектыў, тым менш ён п’е. Як казаў філосаф Валянцін Акудовіч, беларус альбо п’е, альбо працуе. Чым больш у яго працы, тым менш у яго жадання піць.

Але што рабіць, калі зараз спыняюцца заводы і пераходзяць на «чатырохдзёнку»? Калі склады «затараныя» прадукцыяй, якую ніхто не набывае?

Праблема алкагалізацыі, такім чынам, палягае не толькі ў сацыяльнай сферы. Для беларуса гэта сфера яшчэ і эканамічная. Таму чым хутчэй краіна будзе выкарабквацца з крызісу, са свайго няўдалага эканамічнага стану, тым хутчэй мы будзем губляць гэтыя непачэсныя месцы па ўжыванні алкаголю на душу насельніцтва.

Як рэфармаваць эканоміку так, каб беларус не піў, — гэта ўжо іншае пытанне.

▸ ВАЧЫМА ГОСЦЯ

# ТРЫ ДНІ Ў БЕЛАРУСІ

Катарына ОКУНЬ

**Уражанні ўкраінкі: шмат вольнай прасторы ды ленінаў, беларуская мова толькі ў электрычках… і смяротнае пакаранне!**



«У Львове прыгожа, але шмат нацыяналістаў», — ляпае падчас дарогі ў цягніку хлопец з Нясвіжа, пасля чаго між іншым згадвае пра свайго бацьку — супрацоўніка КДБ у адстаўцы. Наогул, цягнік Магілёў—Чарнаўцы амаль цалкам складаецца з беларускіх пенсіянераў-курортнікаў (вяртаюцца з Трускаўца ды Моршына) ды ўкраінцаў, што едуць праз Беларусь на заробкі ў Цюмень, Калінінград, г.д.

«А раней не патрэбныя былі ўсе гэтыя паперкі — едзь куды хочаш, у адной краіне жылі…» — з настальгіяй уздыхае немаладая пані ў акулярах, якой з цяжкасцю даецца запаўненне эміграцыйнай карткі.

Прыязджаем у Мінск. Першае, што кідаецца ў вочы, — шмат вольнай прасторы. Цераз гэта людзі заўсёды аддзеленыя адно ад аднаго. Каб зладзіць мітынг ці шэсце, у Львове патрэбна зусім не шмат. Нас можа быць мала, але на вузенькіх брукаваных вулачках мы стаем вялікай сілай. У Мінску наадварот: каб зладзіць нешта кардынальнае, каб людзі не пачуваліся самотнымі, каб насамрэч адчулі плячо суседа, патрэбен сапраўды вялікі натоўп. Для зменаў у Беларусі патрэбна значна больш, чым ва Украіне.

Па звычцы шукаем у цэнтры «стары горад», замест якога — Дом ураду, побач — Ленін. Сімвалічна, што плошчы Незалежнасці адпавядае станцыя метро «Плошча Леніна». Камунізм настолькі глыбока пусціў сваё карэнне ў тутэйшую глебу, што часам падаецца, нібы за логікай акурат плошча Незалежнасці мела б быць глыбока пад зямлёй ды бетонам, у ідэйным андэграўндзе.

Цікава, што людзі нібы і не заўважаюць зорачак на дамах, ленінаў ды вечнага агню. Для іх яны не маюць ані гонару, ані абразы. Ленін ці Каліноўскі — якая розніца?

Спыняемся перакусіць у падземным цэнтры «Сталіца», акурат пад Ільічом. Знешне — бляск і шык, Еўропа. Кошт самай таннай піцы ў піцэрыі на трэцім паверсе — 68 тысяч. Такую ж за смакам можна прыдбаць у Львове за 30 грыўняў, у два разы танней. Зразумела, што ў Львове вялікі паток турыстаў, канкурэнцыя, але ж гэта — сталіца (у прамым і пераносным сэнсе)!

Смачна паесці давялося толькі ў сетцы рэстаранаў «Васількі», афармленых у нацыянальным стылі (афіцыянткі ў строях, драўляныя сальнічкі і г.д.). Нечым падобна да львоўскай сеткі «Пузата хата». Адзіны мінус — падбор музыкі, якая з большага складаецца з савецкіх хітоў 1980-х гадоў. Сябры тлумачаць, што багата нацыянальнай музыкі занесена ў так званыя «чорныя спісы»… Шкада.

Сапраўды, вельмі чыста: вачыма міжволі даводзілася шукаць смецце на ходніку альбо яміны на дарозе.

Шлях да Гродна — электрычка, якая ідзе ажно шэсць гадзін, прыбіральня — у першым ды апошнім вагонах. Ну, да гэтага не прызвычайвацца. Дарэчы, на Магілёў таксама ішла электрычка, але цалкам еўрапейскага ўзору — навюткая ды з завостраным носам лакаматыва.

Дарэчы, наконт праезду ў самім горадзе: здзівіла размаітасць відаў транспарту з абсалютна рознымі коштамі: аўтобус, тралейбус, аўтобус-экспрэс, маршрутка… Кошты ад 1900 да 5000 руб. Прыватная маршрутка ў Львове каштуе 2 грыўні (2 тысячы беларускіх рублёў), пенсіянерам, інвалідам, шматдзетным сем’ям — праезд бясплатны. Для льготнікаў у тралейбусах квіток каштуе 75 капеек (750 беларускіх рублёў), поўны — 1,25 (1 250 беларускіх рублёў). У Беларусі льготаў чамусьці няма ані ў дзяржаўным, ані ў прыватным транспарце.

Грошы — асобная тэма, бо іх у беларусаў навалам (я пра купюры). На мінскім вакзале добра адклаўся ў памяці эпізод, калі глуханямы, які прадае іконкі ў зале чакання, расклаў свой заробак на падлозе, каб падлічыць. Сцэна нагадвала кадры з фільму пра мафію — процьма купюраў на вакзальнай плітцы, раскладзеныя, нібы пасьянс. «Супакойся, — астудзілі пыл сябры, — там смешная сума, проста купюраў багата». Сапраўды, ва Украіне ёсць сэнс нахіляцца нават за адной грыўняй (1 тысяча беларускіх рублёў), у Беларусі ж дробныя купюры ніхто не падымае: за іх немагчыма нічога набыць.

Гродна, шчыра кажучы, прыйшлося больш да сэрца, чым Мінск: ажно два замкі, старыя вулачкі, велічны Нёман. Нават за некалькі разоў, падаецца, усяго не абыдзеш.

Я ведала, што ў Беларусі няма жорсткага падзелу паміж захадам і ўсходам, ведала, што існуе моўная праблема, як і ў нас. Але шчыра спадзявалася, што расстаноўка сілаў паміж беларускай і рускай будзе хаця б 50 на 50. Аказалася, што не толькі Мінск, але і рэшта больш-менш вялікіх гарадоў — рускамоўныя.

Толькі ў электрычках сярод людзей старэйшага веку можна пачуць беларускую. Так, запомнілася адна бабулька, якая размаўляла па-беларуску, малілася на эрзац-стараславянскай, але ўжо яе сын, які сядзеў побач, ужываў выключна рускую. Мова для яе не была каштоўнасцю, сыну яна яе так і не перадала…

За параднымі сталінскімі фасадамі існуе яшчэ і «нелегальная Беларусь». Гэта можна адчуць, напрыклад, у Мінску на офісе БНФ — Беларускага «нябачнага» (як пажартаваў нехта) фронту. Там давялося выпадкова пабачыць дзіцячую кніжку пра Маму Му: яе прэзентацыю мы з сябрамі бачылі ў Львове падчас беларуска-шведскіх культурных дзён, забароненых у Беларусі… А на офісе прыдбала сабе футболку ды значак на памяць.

Зусім забылася: у Беларусі ўсё яшчэ існуе практыка смяротнага пакарання. Слабанервовым раю добра падумаць перад тым, як наведаць нашу Сінявокую суседку.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 26 ЧЭРВЕНЯ, СЕРАДА

### БЕЛАРУСЬ 1

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.25** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Добры дзень, мама!».
**10.05** Меладраматычны серыял «Земскі доктар» (Расія). Заключная серыя.
**11.00** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).
**12.10** «Дзень у вялікім горадзе». Інтэрактыўнае жаночае ток-шоў.
**13.20** Журналісцкае расследаванне.
**13.50** Ваенны дэтэктыў «Апостал» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Сфера інтарэсаў.
**15.45** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**16.45** Зямельнае пытанне.
**17.15** Каталіцкія святыні Беларусі.
**17.45** Серыял «Добры дзень, мама!».
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.10** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Працяг» (Расія). 1-я серыя.
**21.00** Панарама.
**22.00** Ваенны дэтэктыў «Апостал» (Расія).
**23.45** Дзень спорту.
**23.55** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** Прэм'ера. «Жаночы доктар 2». Шматсерыйны фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**14.05** «Модны прысуд».
**15.05** «Я падаю на развод».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Пандора». Шматсерыйны фільм.
**22.15** «Музычныя вечары ў Мірскім замку».
**23.45** Прэм'ера. Рамантычная камедыя «Проста Райт».
**01.30** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** Міс - Мінск 2013.
**09.05** «Нам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Мінск і мінчане».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Міс - Мінск 2013.
**13.55** Фільм «Жанчын крыўдзіць не рэкамендуецца». Расія, 1999 г.
**15.35** «Жывая тэма».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** Міс - Мінск 2013.
**17.35** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Я ніколі не буду тваёй». ЗША, 2007 г.
**22.20** Міс - Мінск 2013.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.55** «Дабро пажаліцца».
**00.15** «Памнажаючы смутак». Серыял.
**01.55** «Дакументальны праект».

### БЕЛАРУСЬ 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыў «Дом-фантом у пасагу» (Украіна). 3-я серыя.
**10.15** Наперад у мінулае.
**10.55** Дакументальны серыял «Будзь у тонусе» (Аўстралія).
**11.40** Цела чалавека.
**12.15** Тэніс. Уімблдон. Агляд.
**13.10** Шпіёнскі баявік «Радзіма чакае» (Расія).3-я і 4-я серыі.
**15.10** Серыял «Дзяржаўная мяжа».
**16.45** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Шпіёнскі баявік «Радзіма чакае» (Расія). 5-я і 6-я, заключная, серыі.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.55** Футбол. Кубак Канфедэрацый. Паўфінал. Прамая трансляцыя.
**23.55** Баскетбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны.

### РОССИЯ ТЕЛЕКАНАЛ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** Тэлесерыял «Дастаеўскі».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Самара».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.15** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.30** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.50** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.45** Тэлесерыял «Каралева бандытаў».
**22.40** Тэлесерыял «Самара».
**23.40** Навіны - Беларусь.
**23.50** «Пацалуйце нявесту!». Тэлесерыял.
**00.45** «Анёлы з мора».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Следства вялі..».
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем».
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Кодэкс гонару-6».
**21.20** Серыял «Ментоўскія войны».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Прэм'ера. Дэтэктыўны серыял «Сцервы».

### МИР

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**06.40** Т/с «Арабэла вяртаецца».
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Рускія амазонкі».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** М/ф «Падарунак лёсу».
**10.30** «Зроблена ў СССР».
**11.00** «Дынастыя».
**12.25** Т/с «Суд».
**14.00** «Саюзнікі».
**14.30** «Беларусь сёння».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00, 22.45** Ток-Шоў «Слова за слова».
**18.30** «Акцэнты».
**18.45, 01.50** Т/с «Закон і парадак. Аддзел аператыўных расследаванняў».
**21.25, 05.25** «Сакрэтныя матэрыялы».
**21.55, 03.40** Д/ф «У свеце мінулага».
**23.35** Т/с «Фатальнае падабенства».
**01.25** «Даведнік».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Студыя «Белсат».
**08.00** Размовы эксперта.
**08.20** «Доктар Марцін», серыял: 25 серыя.
**09.10** «Малая Масква», серыял: 3 серыя.
**10.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**10.10** Праект «Будучыня».
**10.35** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**17.05** «Мікі Моль і Страшны Плашч», анімацыйны фільм: 4 серыя.
**17.25** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 8 серыя.
**17.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 4 серыя.
**18.50** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**19.20** Невядомая Беларусь: «Кіпіць Няміга», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Без рэтушы: «Свае і чужынцы», рэпартаж, 2009 г., Польшча.
**20.20** Маю права (юрыдычная праграма).
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат».
**22.00** Назад у будучыню.
**22.15** «Глыбокая вада», серыял: 3 серыя.
**23.00** «Лобатамія», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**00.05** Лета з дэтэктывам: «Пітбуль», серыял: 7 серыя.
**00.55** Аб'ектыў.
**01.20** Студыя «Белсат».

## 27 ЧЭРВЕНЯ, ЧАЦВЕР

### БЕЛАРУСЬ 1

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.25** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**10.05** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Працяг» (Расія). 1- я серыя.
**11.00** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).
**12.10** «Дзень у вялікім горадзе». Інтэрактыўнае жаночае ток-шоў.
**13.20** Журналісцкае расследаванне.
**13.50** Ваенны дэтэктыў «Апостал» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Сфера інтарэсаў.
**15.45** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**16.45** Каробка перадач.
**17.15** Дыялогі пра цывілізацыю.
**17.45** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.05** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Працяг» (Расія). 2- я серыя.
**21.00** Панарама.
**22.00** Ваенны дэтэктыў «Апостал» (Расія).
**23.40** Дзень спорту.
**23.55** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** Прэм'ера. «Жаночы доктар 2». Шматсерыйны фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**14.05** «Модны прысуд».
**15.05** «Я падаю на развод».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Пандора». Шматсерыйны фільм.
**22.15** АНТ прадстаўляе: «Музычныя вечары ў Мірскім замку».
**23.45** Фільм «Лютасць».
**01.45** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** Міс - Мінск 2013.
**09.05** «Нам і не снілася».
**10.05** «Дабро пажаліцца».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Міс - Мінск 2013.
**13.55** Фільм «Я ніколі не буду тваёй». ЗША, 2007 г.
**15.45** «Якія людзі!».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** Міс - Мінск 2013.
**17.35** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Афёра». Расія, 2001 г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман. Выкрыццё».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Памнажаючы смутак». Серыял. Заключныя серыі.
**01.55** «Дакументальны праект».

### БЕЛАРУСЬ 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыў «Дом-фантом у пасагу « (Украіна). 4-я серыя, заключная.
**10.15** Вышэй за дах.
**10.55** Дакументальны серыял «Будзь у тонусе» (Аўстралія).
**11.25** Цела чалавека.
**12.00** Тэніс. Уімблдон. Агляд.
**12.55** Шпіёнскі баявік «Радзіма чакае» (Расія). 5-я і 6-я, заключная, серыі.
**14.55** Прыгодніцкі баявік «Крапавы берэт» («Беларусьфільм»). 1-я і 2-я серыі.
**16.45** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Трагікамедыя «Анкор, яшчэ анкор!» (Расія).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.55** Футбол. Кубак Канфедэрацый. Паўфінал. Прамая трансляцыя.
**23.55** Баскетбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны.
**01.35** Час футболу.

### РОССИЯ ТЕЛЕКАНАЛ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** Тэлесерыял «Дастаеўскі».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Самара».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.15** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.30** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.50** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.45** Тэлесерыял «Каралева бандытаў».
**22.40** Тэлесерыял «Самара».
**23.40** Навіны - Беларусь.
**23.50** «Пацалуйце нявесту!». Тэлесерыял.
**00.45** «Куды сыходзіць памяць?».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Крамлёўскія дзеці».
**11.10** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Кодэкс гонару-6».
**21.20** Серыял «Ментоўскія войны».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Дэтэктыўны серыял «Сцервы».

### МИР

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**06.40** Т/с «Арабэла вяртаецца».
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Галоўныя ролі».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** М/ф «Вечар напярэдадні Івана Купалы».
**10.30** «Дачныя гісторыі».
**11.00** «Двое».
**12.25** М/ф «Дарога пад нябёсамі».
**14.15** «Кыргызстан у асобах».
**14.30, 01.25** «Дыяспары».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00, 22.45** Ток-Шоў «Слова за слова».
**18.30** «Акцэнты».
**18.45, 01.50** Т/с «Закон і парадак. Аддзел аператыўных расследаванняў».
**21.25, 05.25** «Беларусь сёння».
**21.55** Д/ф «У свеце каменных джунгляў».
**23.35** Фатальнае падабенства.
**03.30** «Народы Расіі».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Студыя «Белсат».
**08.00** Назад у будучыню.
**08.10** «Глыбокая вада», серыял: 3 серыя.
**08.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**09.20** «Кіпіць Няміга», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**09.50** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**10.00** Euromaxx.
**10.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**17.05** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 7 серыя.
**17.30** «100 хвілін вакацыяў», тэлесерыял: 4 серыя.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Праведнікі», тэлесерыял: 4 серыя.
**18.50** На колах.
**19.20** Невядомая Беларусь: «Сабачая будка», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**20.10** Zeroes Heroes (рэтраспекцыя блізкай гісторыі).
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат».
**22.00** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**22.15** «Жыццё ля поплаву», тэлесерыял: 8 серыя.
**23.05** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Дзень Перамогі», дак. фільм, 1997 г., Польшча.
**23.50** Лета з дэтэктывам: «Пітбуль», серыял: 8 серыя.
**00.40** Аб'ектыў.
**01.05** Студыя «Белсат».

## 28 ЧЭРВЕНЯ, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.35** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**10.05** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Працяг» (Расія). 2- я серыя.
**11.00** Дакументальны серыял «Пад сонцам» (ЗША).
**12.10** «Дзень у вялікім горадзе». Інтэрактыўнае жаночае ток-шоў.
**13.20** Журналісцкае расследаванне.
**13.45** Ваенны дэтэктыў «Апостал» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Сфера інтарэсаў.
**15.45** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**16.45** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**17.40** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**19.20** Зона Х. Вынікі тыдня.
**19.55** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Працяг» (Расія). 3-я серыя.
**21.00** Панарама.
**22.00** Ваенная драма «Свае» (Расія).
**00.05** Зона Х. Вынікі тыдня.
**00.55** Дзень спорту.
**01.05** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсерыйны фільм.
**12.10** Прэм'ера. «Жаночы доктар 2». Шматсерыйны фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**14.05** «Модны прысуд».
**15.05** «Я падаю на развод».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Фільм «Чаклун і Румба».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** АНТ прадстаўляе: «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** Поле цудаў.
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Пандора». Шматсерыйны фільм. Заключная серыя.
**22.15** АНТ прадстаўляе: «Музычныя вечары ў Мірскім замку».
**23.45** Прыгодніцкая камедыя «Кілеры».
**01.35** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Нам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Афёра». Расія, 2001 г.
**15.35** «Ашуканыя навукай».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Такі лёс».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** 1/4 Фіналу Першай лігі МС КВЗ.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ежа багоў».
**00.00** Еўрапейскі покерны турнір.
**00.50** Фільм «Кармэн». Іспанія, 1959 г.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Колер кахання», «Агледзіны» (Беларусь).
**10.15** Час футболу.
**11.05** Дакументальны серыял «Будзь у тонусе» (Аўстралія).
**11.55** Тэніс. Уімблдон. Агляд.
**12.50** Трагікамедыя «Анкор, яшчэ анкор!» (Расія).
**14.50** Прыгодніцкі баявік «Крапавы берэт» («Беларусьфільм»). 3-я і 4-я, заключная, серыі.
**16.45** Мазгавы штурм.
**17.20** Беларуская кухня.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Камедыя «Заяц над безданню» (Расія).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Фантастычны дэтэктыў «Дзённік д'ябла» (Канада).
**23.20** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**00.10** Баскетбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны.
**01.50** Арэна.
**02.20** Фактар сілы.

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** Тэлесерыял «Дастаеўскі».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Самара».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.15** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.30** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.50** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.45** «Юрмала». Фэст гумарыстычных праграм.
**22.30** Тэлесерыял «Самара».
**23.30** Навіны - Беларусь.
**23.40** «Пацалуйце нявесту!». Тэлесерыял.
**00.35** Фільм «Хатняя прыслужніца» (2011 г.).

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Крамлёўскія дзеці».
**11.10** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.35** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Кодэкс гонару-6».
**21.15** Вострасюжэтны фільм «Госць».
**22.55** Прэм'ера. Дэтэктыўны серыял «Сцервы».
**00.35** «Першая кроў».

### МИР

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**06.40** Т/с «Арабэла вяртаецца».
**07.05** Т/с «Цік-так».
**07.20** Т/с «Галоўныя ролі 2.
**09.00, 12.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** М/ф «Пара чырвоных яблыкаў».
**10.30** «На шашлыкі».
**11.00** Д/ф «У свеце каменных джунгляў».
**12.25, 03.20** М/ф «Дзень праўды».
**14.15** «Рэспубліка сёння».
**14.30** «Сардэчна запрашаем».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00** «Сакрэтныя матэрыялы».
**17.30** «Злачынствы і пакаранне».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.30** «Акцэнты».
**18.45** М/ф «Мядзведжая шкура».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.25** «Любімыя акцёры».
**21.55** М/ф «Хто заплаціць за поспех».
**23.20** Т/с «Фантамара».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Студыя «Белсат».
**08.00** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**08.15** «Жыццё ля поплаву», тэлесерыял: 8 серыя.
**09.00** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Дзень Перамогі, дак. фільм, 1997 г., Польшча.
**09.45** «Сабачая будка», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**10.15** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.40** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**17.05** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 8 серыя.
**17.30** «Эміль з Лённэбэр'і», серыял: 4 серыя.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Ваенныя гульні», дак. фільм: 4 серыя.
**18.55** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**19.20** Невядомая Беларусь: «Берасцейская крэпасць. Дзве абароны», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Мядзведзікі».
**20.00** Форум (ток-шоу).
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат».
**22.00** «Апантаныя», дак. цыкл.
**22.15** «Кароль-вінароб», серыял: 9 серыя.
**23.00** «Павернуты», маст. фільм, 1994 г., Польшча.
**00.20** Лета з дэтэктывам: «Дэфект», тэлесерыял: 4 серыя.
**01.15** Аб'ектыў.
**01.40** Студыя «Белсат».

## 29 ЧЭРВЕНЯ, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**05.40** Эксцэнтрычная камедыя «12 крэслаў» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**08.20** Слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.
**08.30** Існасць.
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Зямельнае пытанне.
**09.35** Камедыйны серыял «Таткі» (Расія-Украіна).
**10.45** Здароўе.
**11.30** Усё як мае быць!
**12.10** Меладрама «Мужыкі!» (СССР).
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** «Залаты патэфон». Парадыйнае шоў (Расія).
**17.30** Каробка перадач.
**18.00** Таямніцы следства.
**18.35** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**19.15** Авантурная камедыя «Рабаванне па-ангельску» (Вялікабрытанія- ЗША).
**21.00** Панарама.
**21.40** Крымінальны трылер «Карты, грошы, два ствала» (Вялікабрытанія).
**23.40** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**00.30** Дзень спорту.
**00.40** Камедыйны серыял «Таткі» (Расія-Украіна).

### Н

**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі. Новыя прыгоды».
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Ідэальны рамонт».
**12.05** «Разумніцы і разумнікі». Фінал.
**12.50** Прэм'ера. «Алсу. «Я-не прынцэса».
**13.50** «Абракадабра».
**15.00** Прэм'ера. «Зорная радня».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Фільм «Чаплін».
**18.55** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Адмысловы выпуск.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** АНТ прадстаўляе: «Музычныя вечары ў Мірскім замку».
**23.35** Вострасюжэтны фільм «Тонкая чырвоная лінія».

### ТВ

**06.20** «Салдаты». Серыял.
**07.15** «Анфас».
**07.30** Фільм «Буча ў Гучы». Сербія - Балгарыя - Аўстрыя - Германія, 2006 г.
**09.10** «Чыстая праца».
**10.00** «Іншая краіна».
**10.35** «Дакументальны праект».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.05** «Прыгоды дылетанта».
**13.40** Фільм «Высокая кроў». СССР, 1988 г.
**15.20** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** «Дзіўная справа».
**18.40** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Скарб». ЗША, 2003 г.
**22.25** СТБ прадстаўляе: «Зорны рынг».
**23.35** Фільм «Водгаласы мінулага». Вялікабрытанія - Іспанія, 2008 г.
**01.25** «Глядзець усім!».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.30** Прыгодніцкі фільм «Корцік» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**09.55** Пазакласная гадзіна.
**10.15** Тэлебарометр.
**10.20** Камедыя «Заяц над безданню» (Расія).
**12.15** Тэніс. Уімблдон. Агляд.
**13.10** Наперад у мінулае.
**13.45** Пад грыфам «Вядомыя».
**14.20** Беларуская кухня.
**14.55** Лірычная камедыя «Падкідыш» (СССР).
**16.35** Гістарычны баявік «Кароль Артур» (ЗША-Вялікабрытанія).
**19.15** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.15** Вышэй за дах.
**20.55** Тэлебарометр.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Фантастычны баявік «Зорны дэсант» (ЗША).



**23.30** Баскетбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны.

### РОССИЯ

**07.00** «Юрмала». Фэст гумарыстычных праграм.
**08.35** Фільм «Мама выходзіць замуж» (2012 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Суботнік».
**11.55** «PROтурызм».
**12.10** Фільм «Мядовы месяц».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма.
**14.50** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**15.30** Фільм «Белыя ружы надзеі» (2011 г.). 1-я серыя.
**17.15** «Суботні вечар».
**19.00** «Карціна свету».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі ў суботу.
**20.40** Фільм «Мой каханы геній» (2012 г.).
**00.10** Фільм «Варанька» (2007 г.).

### НТВ

**06.30** Серыял «Злачынства будзе раскрыта».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Агляд».
**08.50** «Гатуем».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.50** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Прафесія-рэпарцёр».
**13.50** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «УГРО-4».
**19.00** Сёння.
**19.25** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «УГРО-4».
**21.10** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**22.10** «Ты не паверыш!».
**23.10** Крымінальны трылер «Без кампрамісаў».
**00.55** «Прамень Святла».
**01.25** «Рэакцыя Васэрмана».

### МИР

**05.00** Д/ф «Галівудскія пары».
**06.00** Мультфільмы.
**07.35** «Мільён пытанняў пра прыроду».
**07.50** М/с «Смешарыкі».
**08.15** «Эксперыментатары».
**08.30** «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «На шашлыкі».
**09.40** «Зроблена ў СССР».
**10.10, 22.50** М/ф «Жаніцьба Бальзамінава».
**11.50, 00.25** Т/с «Самотнае неба».
**15.10** Т/с «Што сказаў нябожчык».
**20.05** «Навіны Садружнасці. Культура».
**20.50** М/ф «30 дзён, пакуль я не знакамітая».
**22.20** «Музычны ілюмінатар».
**03.40** Д/ф «3 нагоды».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Студыя «Белсат».
**08.00** «Апантаныя», дак. цыкл.
**08.10** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра», «Прыгоды і паходы», «Пацукі».
**08.45** «Між намі, буслámі», анімацыйны серыял для дзяцей: 4 серыя.
**09.10** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 7 серыя.
**09.40** «Чарцюк з сёмага класу», дэтэктыўна-прыгодніцкі серыял: 4 серыя.
**10.30** Форум (ток-шоу).
**11.15** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**11.45** «Кіпіць Няміга», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**12.15** «Жыццё ля поплаву», тэлесерыял: 8 серыя.
**13.00** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**13.10** «Час гонару», серыял: 40 серыя.
**13.55** «Павернуты», маст. фільм, 1994 г., Польшча.
**15.15** «Сенсацыі XX стагоддзя», серыял: «Гёрынг: Цана смерці».
**16.05** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**16.20** «Кароль-вінароб», серыял: 9 серыя.
**17.05** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 26 серыя.
**17.30** «Дзеці сонца», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**17.50** «Калядныя вітрыны», дак. фільм, 2003 г., Францыя.
**18.45** «Малая Масква», серыял: 4 серыя.
**19.30** Беларусы ў Польшчы.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**20.00** Паляванне на дзівосы (спазнаваўчая праграма).
**20.20** Невядомая Беларусь: «Найвышэйшая мера», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Суботні сеанс: «У Бога за мяжою», камедыя, 2009 г., Польшча.
**23.10** Невядомая Беларусь: «Берасцейская крэпасць. Дзве абароны», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**23.40** Лета з дэтэктывам: «Дэтэрмінатар», серыял: 4 серыя.
**00.25** Аб'ектыў.
**00.45** «Сон-трава», канцэрт гурта «Троіца»: ч. 1.
**01.10** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 30 ЧЭРВЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**06.45** Меладрама «Мужыкі!» (СССР).
**08.30** Каталіцкія святыні Беларусі.
**09.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.35** Камедыйны серыял «Таткі» (Расія-Украіна).
**10.45** Медычныя таямніцы.
**11.15** Зона Х. Вынікі тыдня.
**11.45** Нашы.
**12.00** Навіны.
**12.10** Эксцэнтрычная камедыя «12 крэслаў» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Прыгодніцкая камедыя «Снежныя сабакі» (Канада-ЗША).
**17.20** Заўтра - гэта мы!
**17.45** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**18.50** Прыгодніцкі баявік (ЗША).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Фантастычны баявік «Дэжа вю» (ЗША-Вялікабрытанія).
**00.40** Камедыйны серыял «Таткі» (Расія-Украіна).

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.50** «Фазэнда».
**11.25** «Ералаш».
**11.40** «Жыццё як кіно».
**12.40** «Жыццё і прыгоды Мішкі Япончыка». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Адгадай мелодыю».
**17.00** «Форт Баярд».
**18.30** АНТ прадстаўляе: «Музычныя вечары ў Мірскім замку».
**20.00** Контуры.
**21.05** Канцэрт "Песня года Беларусі". Працяг.
**22.35** Фільм «Балкон з відам на мора».
**00.25** Прэм'ера. «Дзеці Трэцяга Рэйха». Фільм 2-і.

### СТВ

**06.10** «Салдаты». Серыял.
**07.50** Фільм «Скарб». ЗША, 2003 г.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман. Выкрыццё».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Час яе сыноў». СССР, 1974 г.
**15.30** «Уявіце сабе».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Спадар ніхто». Францыя - Германія - Канада - Бельгія, 2009 г.
**23.05** «Якія людзі!».
**23.55** Фільм «Недарэчны чалавек». Нарвегія - Ісландыя, 2006 г.
**01.35** Дакументальны праект.

### Беларусь 2

**07.30** Мультфільмы.
**07.45** Прыгодніцкі фільм «Корцік» (СССР). 3-я серыя, заключная.
**09.00** Пазакласная гадзіна.
**09.20** Тэлебарометр.
**09.25** Пра мастацтва.
**09.55** Лірычная камедыя «Падкідыш» (СССР).
**11.25** Тэніс. Уімблдон. Агляд.
**12.20** Містычная камедыя «Вежа жаху» (ЗША).
**14.10** Сатырычная камедыя «Не можа быць!» (СССР).
**16.10** Спорт-кадр.
**16.55** Футбол. Чэмпіянат Рэспублікі Беларусь. БАТЭ - Нёман. Прамая трансляцыя.
**19.15** Суперлато.
**20.20** Навіны надвор'я.
**20.55** Баскетбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны. У перапынку.
**21.35** «Спортлато 5 з 36», «КЕНО».
**22.45** Футбол. Кубак Канфедэрацый. Матч за 3-е месца.
**00.55** Футбол. Кубак Канфедэрацый. Фінал. Прамая трансляцыя.

### Россия

**07.00** Фільм «Мой каханы геній» (2012 г.).
**10.10** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.20** Фільм «Асабістая справа суддзі Івановай».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Чорныя дзюры. Белыя плямы».
**15.05** «Людміла Савельева. Пасля балю».
**16.05** Фільм «Белыя ружы надзеі» (2011 г.). 2-я серыя.
**17.55** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**20.00** Весткі тыдня.
**21.25** Фільм «Родны чалавек» (2012 г.).
**23.20** Фільм «Прыгажуня і Пачвара» (2012 г.).

### НТВ

**06.25** Серыял «Злачынства будзе раскрыта».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Дачны адказ».
**11.25** «Паедзем, паямо!».
**11.55** «Цуд тэхнікі».
**12.30** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**13.00** Сёння.
**13.25** «Следства вялі..».
**14.10** «Вочная стаўка».
**15.10** «Казнакрады».
**16.05** «Выратавальнікі».
**16.35** Дэтэктыўны серыял «Масква. Цэнтральная акруга».
**18.25** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**20.00** Чыстасардэчнае прызнанне.
**20.40** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**21.45** «Ты не паверыш!».
**22.40** Прэм'ера. «Дана Барысава і Мікалай Агурбаш. Як на духу».
**23.40** Фільм «Камуналка».
**01.15** «Школа зласлоўя» Ток-шоў.

### МИР

**05.00** Д/ф «Галівудскія пары».
**06.00** Мультфільмы.
**07.35** «Мільён пытанняў пра прыроду».
**07.50** М/с «Смешарыкі».
**08.05** «Ведаем рускую».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Даведнік».
**09.35** «Зямля і неба». 5 выпуск.
**10.05** «Незорнае дзяцінства».
**10.30** М/ф «Паходня».
**13.30** М/ф «Травесці».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**15.50, 21.00** Т/с «Мая мяжа».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**22.15** М/ф «Паходня».
**01.20** М/ф «Травесці».
**03.00** Волга-Волга.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Невядомая Беларусь: «Берасцейская крэпасць. Дзве абароны», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**07.45** Беларусы ў Польшчы.
**08.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**08.15** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Мядзведзікі», «Нодзі ў краіне цацак».
**08.40** «Мікі Моль і Страшны Плашч», анімацыйны фільм: 4 серыя.
**09.10** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 8 серыя.
**09.35** «Эміль з Лённэбэр'і», серыял: 4 серыя.
**10.00** «100 хвілін вакацыяў», тэлесерыял: 4 серыя.
**10.30** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**10.55** «Глыбокая вада», серыял: 3 серыя.
**11.45** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 4 серыя.
**12.10** «У Бога за мяжою», камедыя, 2009 г., Польшча.
**14.05** «Паўднёвыя Курылы. Выспы забытых», дак. фільм, 1997 г., Польшча–Германія.
**15.00** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 4 серыя.
**15.45** «Ваенныя гульні», дак. фільм: 4 серыя.
**16.35** «Праведнікі», тэлесерыял: 4 серыя.
**17.20** Без рэтушы: «Куды адплылі пінскія караблі?», рэпартаж, 2012 г., Польшча.
**17.45** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.15** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**18.40** «Прафесія «кат»», дак. фільм, 2001 г., Францыя.
**19.40** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**20.05** Невядомая Беларусь: «Чарга. Гісторыя пытання ці пытанне гісторыі?», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**20.40** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**21.00** Размовы эксперта.
**21.20** Фільматэка майстроў: «Рыса», маст. фільм, 2008 г., Польшча.
**22.45** Лета з дэтэктывам: «Мент», дэтэктыўны серыял: 4 серыя.
**23.35** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

---

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы Час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго, падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў.

| | |
|---|---|
| Гомель | (8 029) 697 82 75 Аляксандр; |
| Магілёў | (8 029) 930 79 22 Міхась; |
| Мінск | (8029) 178 31 68 Вольга; |
| Бабруйск | (8029) 628 75 01 Вольга; |
| Слуцк | (8029) 364 42 60 Зінаіда. |

## Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты — 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир

ГЕАПАЛІТЫЧНЫ ПРАЕКТ



# НОВАЯ ПАНАМА?

Алег НОВІКАЎ

**Амбіцыйная ідэя нікарагуанскага ўраду — прарыць паралельна Панамскаму свой канал, які звяжа Ціхі і Атлантычны акіяны, — стала сапраўднай інфармацыйнай бомбай.**

Вядома, што канал, які сёння звязвае Атлантычны і Ціхі акіяны на панамскім перашыйку, першапачаткова павінен быў праходзіць менавіта праз Нікарагуа. Яшчэ ў XVI стагоддзі іспанскі кароль Карл V замовіў спецыяльнае тапаграфічнае даследаванне тэрыторыі Нікарагуа з мэтай злучэння двух акіянаў. Напрыканцы XIX стагоддзя ідэя ледзьве не наблізілася да практычнай рэалізацыі. Аднак створанай у 1880 годзе Кампаніі Нікарагуанскага канала не ўдалося сабраць увесь неабходны для пабудовы капітал або пераканаць урад Злучаных Штатаў Амерыкі фінансава падтрымаць праект.

У любым выпадку, цяпер усё вяртаецца на свае месцы. 14 чэрвеня ў Манагуа кіраўніцтва краіны і кітайская кампанія HK Nicaragua Canal Development Investment Co. Limited (HKND Group) падпісалі дамову, згодна з якой да 2030 года праз тэрыторыю Нікарагуа, ад Ціхага Акіяну да Карыбскага мора, будзе прарыты 286-кіламетровы канал. Папярэдняя сума інвестыцый — 40 мільярдаў долараў ЗША. Тэрыторыя канала пяройдзе ў канцэсію HKND Group роўна на 50 гадоў. Калі гэты тэрмін скончыцца, канцэсія можа быць працягнутая яшчэ на 50 гадоў, аднак ужо без магчымасці пралангацыі.

Што атрымае ад свайго канала просты нікарагуанскі грамадзянін? Па-першае, каласальныя інвестыцыі ў будаўніцтва прывядуць да стварэння новага вытворчага сектару. Будаваць трэба будзе вельмі шмат — два порта, новы аэрапорт, чыгунку і г.д. У краіне з насельніцтвам 5,6 мільёна чалавек з'явіцца, паводле разлікаў спецыялістаў, больш за 100 тысяч новых працоўных вакансій. Гэта дазволіць да 2015 года падняць нікарагуанскі штогадовы ВУП на 15 працэнтаў.

Пасля ўвядзення аб'екта ў эксплуатацыю, Нікарагуа будзе атрымліваць каля 1 працэнта ад прыбытку ўсіх камерцыйных устаноў, што працуюць у зоне канала. Гэты працэнт можа быць з часам падвышаны. Адначасова зона канала на першыя 10 гадоў стане свабоднай камерцыйнай зонай. За што кітайцы будуць таксама плаціць у нікарагуанскі бюджэт. Частка нерухомасці, пабудаваная ў зоне канала, будзе належаць Нікарагуа.

Праўда, узнікае лагічнае пытанне, а ці будуць марскія кампаніі надаваць перавагу новаму каналу замест панамскага, які знаходзіцца каля 600 кіламетраў на поўдзень і праз які зараз праходзіць пяць працэнтаў усіх марскіх камерцыйных грузаў. Будуць — адказваць аўтары ідэі. Плануецца, што Нікарагуанскі канал будзе адаптаваны пад новыя вялізарныя караблі тыпу Post-Panamax, якія могуць транспартаваць да 12 000 кантэйнераў. Панамскі канал вельмі вузкі для такога кшталту марскіх гігантаў.

А ўвогуле, як заявіў прэзідэнт Даніэль Артэга падчас падпісання кантракту, пра такі канал фактычна марылі самыя вядомыя постаці нікарагуанскай гісторыі, у тым ліку славуты Аўгуста Сандына. Паводле пераканання Даніэля Артэга, «гэты праект дапаможа змагацца з такой з'явай, як беднасць, і перамагчы яе, што забяспечыць і гарантуе росквіт і шчасце ўсяго народу Нікарагуа». Падпісант ад HKND Group, у сваю чаргу, заўважыў, што яго фірма гарантуе канструкцыю і адказвае за добрую функцыянальнасць канала, які будзе працаваць «у адпаведнасці з прынцыпам павагі да суверэнітэту, экалогіі, сацыяльнай адказнасці і развіцця эканомікі».

Нягледзячы на прыгожыя словы і арыфметыку, агульнага захаплення каналам сярод нікарагуанцаў не назіраецца. У ходзе дэбатаў вакол ідэі канала ў краіне і за яе межамі паўстаў шырокі блок крытыкаў праекту: ад пісьменнікаў да індзейцаў, плямёны якіх жывуць уздоўж Карыбскага мора.

Безумоўна, трывогу праяўляюць эколагі. Ведаючы іх норавы, HKND Group загадзя замовіла брытанскай фірме Environmental Resources Management (ERM) правесці даследаванне наконт магчымых наступстваў будоўлі і працы канала для прыроднага ландшафту і біясістэмы. Сыходзячы з гэтых разлікаў, па словах кітайскіх бізнесменаў, у бліжэйшы час ERM прадставіць свой варыянт маршруту канала, які дазволіць звесці шкоду прыродзе да мінімальнага ўзроўню.

Прэзідэнт Даніэль Артэга заявіў, што пра такі канал марылі самыя вядомыя постаці нікарагуанскай гісторыі, у тым ліку славуты Аўгуста Сандына

Аднак абаронцаў прыроды гэта не супакоіла. Яны цытуюць міністра экалогіі, які абмовіўся, што 5 з 6 варыянтаў магчымага маршруту канала праходзяць праз возера Нікарагуа, якое знаходзіцца ў цэнтры краіны і якое з'яўляецца першым па велічыні прэснаводным возерам у Лацінскай Амерыцы (8 624 квадратных кіламетраў). Можна толькі ўявіць, што застанецца ад унікальнага вадаёму, калі праз яго пачнуць хадзіць флатыліі танкераў.

Акрамя таго, вялікую плошчу лясоў вакол зоны канала давядзецца высякаць. На думку эколагаў, фіналам рэалізацыі мегапраекту стане самая вялікая прыродная катастрофа ў гісторыі Нікарагуа. Рызыкі трапіць на старонкі Чырвонай кнігі падвяргаюцца каля 120 відаў птушак, розныя рыбы, рэптыліі, малюскі, кракадзілы і г.д. Дададзім, што эколагі абвінавацілі спецыялістаў з ERM у атрыманні хабару ад кітайцаў.

Гучаць галасы пратэсту і ў замежжы. Калумбійскі сенат выдаў заяву пра тое, што канструкцыя канала нясе пагрозу суверэнітэту Калумбіі, паколькі марскія шляхі будуць праходзіць праз калумбійскія тэрытарыяльныя воды. А вось Гватэмала падтрымлівае ідэю пабудовы канала. У праекце інфраструктуры вакол канала таксама значыцца нафтавы тэрмінал. Гэта дазволіць танней імпартаваць нафту з Венесуэлы.

Сярод апанентаў ураду група нікарагуанскіх прадпрымальнікаў, якія баяцца будучай інтэрвенцыі кітайскага капіталу. Бізнэсмэны заявілі, што будуць аспрэчваць кантракт праз канстытуцыйны суд, паколькі дакумент парушае артыкул канстытуцыі аб тым, што дзяржава гарантуе роўнасць гаспадарчых суб'ектаў (у дадзеным выпадку кампанія HKND Group яўна становіцца дамінуючай на нікарагуанскім рынку). Іх падтрымлівае частка нацыянальнай інтэлігенцыі, якія баяцца культурнай асіміляцыі нікарагуанцаў кітайскімі імігрантамі.

Не прайшла міма тэмы «жоўтай пагрозы» і правая апазіцыя. Акрамя страшылак пра орды кітайскіх гастарбайтэраў, апазіцыя звяртае ўвагу на дзіўныя моманты ў біяграфіі падрадчыка і гісторыі яго фірмы. Кампанія, якая збіраецца пракапаць усю Нікарагуа, была зарэгістраваная ўсяго 10 месяцаў таму ў Ганконгу на імя адваката Дэ Ванга (De Wang). Пра гэтага чалавека вядома вельмі мала. Ён нарадзіўся ў 1972-м, а ў 2012 годзе пачаў працаваць як уладальнік тэлекамунікацыйнай кампаніі Xinwei на нікарагуанскім рынку. Вядома таксама, што з гэтай фірмай звязаны сын прэзідэнта Даніэля Артэга. Таксама вядома, што статутны капітал HKND Group складае ўсяго 48 тысяч еўра.

Як можна давяраць такім «рагам і капытам» — пытаецца апазіцыя? Адказ відавочны: за ліпавай кампаніяй стаіць Пекін, які адкрые для HKND Group крэдытную лінію. Інакш бы Дэ Вангу не дазволілі весці такі маштабны праект. Справа ў тым, што Манагуа падтрымлівае дыпламатычныя кантакты з Тайванем, які Пекін лічыць тэрыторыяй КНР. У сувязі з чым кітайскі ўрад не вітае інвестыцыі ў эканоміку краін, якія сябруюць з Тайванем. Аднак на гэты раз чамусьці ён заплюшчыў вочы. Іншымі словамі, рыхтуецца стварэнне пад прыкрыццём канала плацдарма кітайскай экспансіі ў Цэнтральнай Амерыцы, што, у сваю чаргу, супярэчыць славутай дактрыне Манро, з якой у розных мадэрнізаваных варыяцыях дасюль носіцца Вашынгтон.

Як бачым, падстаў для трывогі сапраўды шмат. Аднак перад тым, як нервавацца, працытуем іспанскае выданне «El Pais»: «Праект канала з'яўляецца экстраардынарным па маштабах, аднак ёсць адна праблема — калі возера Нікарагуа не будзе мець патрэбнай глыбіні для праходу караблёў такіх габарытаў, увесь план акажацца ілюзіяй».

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Культурна-палітычны бэкграўнд для крыміналізацыі гомасэксуалізму ў Беларусі ёсць. Але ісці ў разрэз з агульнасусветнымі тэндэнцыямі, якіх прытрымліваліся нават у Расіі, Лукашэнка не адважваўся. А цяпер Пуцін даў калегу выдатную медыянагоду. У тое, што ў Беларусь вернецца артыкул за гомасэксуалізм, сёння тут вераць амаль што ўсе. Зрэшты, не варта блытаць матывы Уладзіміра Пуціна і Аляксандра Лукашэнкі. Бо, робячы «адну справу», яны пераследуюць розныя мэты... Антыгомасэксуальную істэрыю ў публічнай палітыцы РФ варта разглядаць у агульным кантэксце з нацыяналістычным і рэлігійным цемрашальствам — як спробу накіраваць сацыяльную незадаволенасць у бяспечнае для алігархіі рэчышча. У Беларусі алігархаў няма. Так што матывы Лукашэнкі наўрад ці аналагічныя пуцінскім. Здаецца, Бацька проста знайшоў удалы момант для рэалізацыі сваіх персанальных комплексаў.

**«Росбалт» (Расія)**

Для Лукашэнкі гэты візіт у Кіеў важны як вялікая знешнепалітычная акцыя, з улікам таго факту, што беларускае кіраўніцтва не можа наведваць тыя краіны, якія хоча. З гэтага пункту гледжання яго візіт у любую вялікую дзяржаву, у тым ліку ва Украіну, вельмі значны. Пры гэтым кіраўніцтва Беларусі падчас любых візітаў трымае галоўную для сябе стратэгічную мэту — пашырэнне збыту і пошук рынкаў для сваёй прадукцыі.

**«Час пик» (Украіна)**

Грамадскасць не давярае абяцанню старшыні КДБ Валерыя Вакульчыка пра тое, што пасля абвяшчэння прысуду ўсе, хто меў сумненні ў вінаватасці Гайдукова, зменяць сваё меркаванне. Беларускія сілавікі не раз абяцалі сенсацыі з раскрыццём падрыхтоўкі ўзброеных дзяржаўных пераваротаў, з атручваннем сістэмы водазабеспячэння здохлымі пацукамі або ў сувязі са знаходкай гранатамёта з дыстанцыйным кіраваннем на школьнай клумбе, якім нібыта павінны былі скарыстацца моладзевыя актывісты. Заўважана, што асаблівую актыўнасць КДБ выяўляў тады, калі намаганняў па раскрыцці канспіратыўнай дзейнасці апазіцыі патрабаваў асабіста прэзідэнт.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Мытны саюз відавочна знаходзіцца ў крызісе. У крызіс жа яго завяла непаслядоўнасць усіх яго сябраў, Лукашэнка не можа арганізаваць збыт тавараў, што вырабляюцца ў Беларусі, таму яго арыенцір — знешнія рынкі. Плюс Лукашэнка сутыкнуўся з праблемай плацежнага балансу, які ён зачыніў шляхам продажу стратэгічных актываў расіянам. Несумненна, гэта разгойдвае дзяржаўную мадэль у Беларусі, якая склалася ў 90-я гады, і пагражае для яе крызісам ужо ў недалёкай перспектыве. Уласна, першыя сімптомы былі падчас дэвальвацыі 2011 года.

**«Хвиля» (Украіна)**

26 лютага ў Мінску паміж партыяй «Самаабарона Рэспублікі Польшча» і Беларускім рэспубліканскім грамадскім аб'яднаннем «Белая Русь» было падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве. Арганізацыя і афіцыйныя ўлады Беларусі сёння маюць вялікую патрэбу ў сваёй легітымізацыі за межамі краіны. Аднак партнёраў, гатовых іх у гэтым падтрымаць, у Еўрасаюзе практычна няма. У сітуацыі, якая склалася, нават такая, здавалася б, вельмі неадназначная палітычная арганізацыя Польшчы, як «Самаабарона», успрымаецца афіцыйным Мінскам як рэальны прарыў ва ўзаемаадносінах з Еўропай. Тут ужо становіцца ўсё роўна, з кім было падпісана пагадненне, з нацыяналістычна настроенай і маргінальнай партыяй у Польшчы, кампартыяй ЗША ці Партыяй міру і працвітання Бутану. На жаль, галоўнае сёння для беларускіх чыноўнікаў — даць справаздачу перад прэзідэнтам аб праведзенай працы, што, на іх думку, і з'яўляецца адным з асноўных паказчыкаў «вялікай палітыкі» ў Беларусі.

**«NewsBalt» (Латвія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. АД ПОЛЬШЧЫ ПАТРАБУЮЦЬ АДКАЗАЦЬ ЗА ГЕНАЦЫД

Украінскія нацыяналісты вырашылі парытэтна адказаць на ініцыятыву польскіх правых партый прызнаць арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў часоў Другой сусветнай вайны злачыннымі за акцыі супраць палякаў на Валыні. Нагадаем, што ў 1948 годзе ў выніку аперацый бандэраўцаў на Валыні было знішчана каля 300 тысяч этнічных палякаў. У адказ група дэпутатаў украінскай Вярхоўнай Рады ад аб'яднання «Свабода» прапануе выставіць Варшаве падобны рахунак за аперацыю «Вісла» — прымусовую дэпартацыю ўкраінскага насельніцтва ў 1948 годзе з заходне-паўднёвай часткі Польшчы, праведзеную ў мэтах разбурэння баз паўстанцкага руху. «Прымусовае перасяленне больш за паўмільёна жыхароў суправаджалася палітычнымі рэпрэсіямі, антыўкраінскай істэрыяй, масавым тэрорам з боку польскіх шавіністычных банд, спаленнем украінскіх вёсак, нечалавечымі здзекамі і жорсткімі забойствамі. Прывяло да разбурэння гістарычных, матэрыяльных, маральных і культурных каштоўнасцяў Лемкаўшчыны, Холмшчыны, Падляшша, Надсяння, а таксама да знішчэння цэлых этнаграфічных груп украінскага народа», — гаворыцца ў заяве «Свабоды». Калі Вярхоўная Рада падтрымае такую ініцыятыву, то ў наступным годзе ва Украіне пройдуць афіцыйныя мерапрыемствы з нагоды 65-годдзя аперацыі «Вісла».

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. ПРАПАНУЕЦЦА ПРЫМЯНЕННЕ КАТАВАННЯЎ

Саюз мусульман Казахстана (зарэгістраваная казахская грамадская арганізацыя) зноў шакіраваў тутэйшую грамадскасць нечаканай заявай. Саюз звярнуўся да казахскага МУС з прапановай аказаць садзейнічанне ў прыняцці спецыяльнага закона, які пашырае паўнамоцтвы паліцыі ў барацьбе з несанкцыянаванымі мітынгамі і сходамі. У пералік новых мер уваходзяць наступныя пункты: дазваляецца збіваць людзей палкамі, жалезнымі прутамі і гумовымі дубінкамі; катаваць, заганяць пад ногці іголкі і цвікі; апускаць у фекаліі кіпячыя вадкасці; гвалтаваць арыштантаў, прымушаючы іх таксама займацца сэксам з хатнімі і дзікімі жывёламі (са сланамі, бегемотамі, сабакамі, вярблюдамі і г.д.)». Відавочна, што гэта яўна апазіцыйная правакацыя. Прычым не першая. Не зразумела толькі адно: чаму Саюз мусульман Казахстана дасюль не стаў аб'ектам пераследу з боку спецслужбаў. Тым больш, што раней некаторыя жарты «мусульман» былі яўна накіраваныя на адрас Назарбаева. Так, Саюз мусульман Казахстана выступаў за ўвядзенне забароны на тое, каб муміфікаваць дзяржаўных дзеячаў.

**Паводле казахскай прэсы**

### РАСІЯ. СПРЭЧКІ ВАКОЛ ДНЯ РАСІІ



Ідэя святкаваць 12 чэрвеня Дзень Расіі ўсё больш не падабаецца прадстаўнікам антыпуцінскай чырвона-карычневай апазіцыі. Калі меркаваць па дыскусіі, якая разгарнулася ў Расіі на мінулым тыдні, шмат хто лічыць, што гэты дзень павінен хутчэй быць жалобным. Усё таму, што агучаная 12 чэрвеня 1990 года Дэкларацыя аб суверэнітэце Расіі ў рамках СССР фактычна дала старт распаду вялікай дзяржавы. Аднак паколькі ў расійскім грамадстве сфармавалася ўстаноўка на тое, каб нешта святкаваць у сярэдзіне чэрвеня, проста так ліквідаваць чырвоную дату ў календары нельга. Таму на старонках камуністычных і нацыянал-патрыятычных СМІ прапануюцца розныя альтэрнатывы. Напрыклад, камуністы прапануюць перанесці свята на 6 чэрвеня, калі нарадзіўся Аляксандр Пушкін. Праваслаўныя фундаменталісты заклікаюць святкаваць 12 чэрвеня — дзень хрышчэння Русі. Яшчэ далей пайшлі нацыяналісты. Яны прапануюць адзначаць 12 чэрвеня — Дзень незалежнасці ад Сярэдняй Азіі. Гаворка пра тое, каб зрабіць гэты дзень днём барацьбы за ўвядзенне візавага рэжыму з краінамі Сярэдняй Азіі і Паўднёвага Каўказу.

**Паводле расійскай прэсы**

### ЕГІПЕТ. БРАТЫ-МУСУЛЬМАНЕ ПАЛЮЮЦЬ НА НДА

У Егіпце дзяржава вядзе паляванне на няўрадавыя арганізацыі, якія атрымліваюць фінансавую падтрымку з-за мяжы. Самае цікавае, што артыкул пра пакаранне за такую дзейнасць з'явіўся ў егіпецкім Крымінальным кодэксе яшчэ ў часы дыктатуры Мубарака, аднак заховаўся і пасля рэвалюцыі. Больш таго, сам прэзідэнт Мурсі, калі выступаў на ТБ, назваў асуджаных па падобных справах «забойцамі» і «злачынцамі». Самы вядомы фігурант такой справы — Ахмед Дума, якога на днях асудзілі на 6 месяцаў за нелегальны грант ад нямецкага фонду імя Адэнаўэра. Той фонд, дарэчы, заснаваны пры Саюзе хрысціянскіх дэмакратаў (CDU), які, як вядома, з'яўляецца ўрадавай партыяй. Адначасова па справах пра атрыманне дапамогі з-за кардону цяпер праходзяць яшчэ 43 чалавекі. Самае смешнае, што следства патрабуе для іх турэмных тэрмінаў за тое, што яны атрымалі гранты памерам у сярэднім каля 120 еўра. З улікам таго, што сярод тых, каму пагражае турма, іншаземны журналіст, егіпецкія СМІ мяркуюць, што рэжым братоў-мусульман аказаўся горшы за папярэдні, які трымаўся нейкага этычнага кодэксу — як мінімум, не чапаў іншаземцаў.

**Паводле нямецкай прэсы**

АФРЫКА

# АЛЖЫР НА ВУЛКАНЕ

**Алег НОВІКАЎ**

**Стан здароўя алжырскага прэзідэнта Абдэля Азіза Бутэфліка крытычны. З-за таго, што гарант не паспеў прызначыць пераемніка, краіна пасля яго смерці рызыкуе пагрузіцца ў анархію.**




У маі мінулага года Абдэль Бутэфліка заявіў, што не будзе больш балатавацца на пасаду прэзідэнта (ён займае яе з 1999 года). Не думайце, што пачуўшы навіну алжырскія дэмакраты ўзрадаваліся. З аднаго боку, ім як патрыётам было прыемна, што ў Алжыры з'явіўся прэзідэнт, які, у адрозненне ад сваіх папярэднікаў, жадае мірна перадаць уладу. Дарэчы, былыя прэзідэнты пакідалі свае пасады, як правіла, у выніку путчаў або смяротных хваробаў.

Усе разумелі кошт заявы, якую зрабіў Бутэфліка. Рашэнне было прынятае на фоне рэвалюцыйных падзей у суседніх арабскіх краінах. За кошт заявы пра хуткі сыход рэжым выкупаў у часткі грамадства лаяльнасць. Тым больш, што Бутэфліка як чалавеку, які нарадзіўся ў 1937 годзе, сапраўды цяжка цягнуць лямку.

Тое, што адбудзецца пазней, можа было лёгка прагназаваць. Да 2014-га прэзідэнт і яго атачэнне вызначацца з кандыдатурай пераемніка, які, з улікам аўтакратычнай прыроды алжырскай улады, лёгка атрымае на выбарах мандат на кіраванне дзяржавай (практычна ўсе апошнія выбары ў краіне былі сфальсіфікаваныя). Алжыр такім чынам мог і далей заставацца на перыферыі дэмакратычнага свету.

Аднак нечакана ў справу ўмяшаліся біяпрацэсы. 27 красавіка 2013 года Бутэфліка быў тэрмінова шпіталізаваны і дастаўлены для медыцынскага абследавання і лячэння ў вядомую парыжскую клініку Валь-дэ-Грас. Прычынай шпіталізацыі стаў мікраінсульт. Са шпіталя алжырскі гарант так і не выйшаў. Ходзяць плёткі, што ён знаходзіцца ў коме. Хаця ўлада ігнаруе запыты апазіцыі надаць грамадству права ведаць пра стан здароўя пацыента Валь-дэ-Грас, з кожным днём з'яўляецца ўсё больш падстаў казаць пра тое, што на былую працу Абдэль Азіз ніколі не вернецца. Увогуле, сітуацыя больш цяжкая. На мінулым тыдні французскае выданне «Valeurs Actuelles» пад рубрыкай «Эксклюзіў» са спасылкай на персанал шпіталя паведаміла, што Бутэфліка амаль пры смерці.

Праўда, і без гэтага паведамлення алжырскае грамадства з сярэдзіны красавіка літаральна стаіць на вушах. Ніхто не ведае, што будзе на наступны дзень пасля з'яўлення ў газетах афіцыйных некралогаў. Сітуацыя нявызначаная нават з пераходным перыядам. Паводле канстытуцыі, уся ўлада на час падрыхтоўкі да новых прэзідэнцкіх выбараў павінна належаць старшыні сенату, аднак тут пачынаюцца прававыя нестасоўкі. Той жа асноўны закон патрабуе, каб кіраўніком дзяржавы быў этнічны алжырац, а галоўны сенатар Абдэлькадэр Бенсалах (Abdelkader Bensalah) мае туніскія карані. У прынцыпе, быў іншы варыянт. Адправіць у Парыж дэлегацыю канстытуцыйнага савету, якая канстатуе недзеяздольнасць прэзідэнта. Аднак праблема ў тым, што кіраўнік савета знаходзіцца невядома дзе.

Адным словам, усё сведчыць, што алжырская эліта ў адсутнасці гаранта не можа дамовіцца пра кандыдатуру пераемніка. Гэта звязваюць не толькі з канкурэнцыяй кандыдатаў і супрацьстаяннем кланаў. Так склалася, што ў адміністратыўным апараце традыцыйна вельмі мала асобаў з лідарскімі якасцямі. Урад і вертыкаль заўсёды былі ў падпарадкаванні.

Часопіс «Afrique magazine» цытуе аднаго з экс-вайскоўцаў: «Ніводны чалавек унутры сістэмы не жадае браць на сябе ініцыятыву з-за страху. Кажучы па праўдзе, ніхто не ведае, як вырашыць гэту праблему».

У сувязі з гэтым усё часцей у заходняй прэсе з'яўляецца імя Махамеда Ламіна Медзіна — генерала сухапутных войскаў. Уплывовае французскае выданне «Le Monde» лічыць, што згаданы генерал у палітычным хаосе, які справакуе смерць прэзідэнта, вызначыць кандыдатуру новага кіраўніка Алжыру.

Праўда, путч будзе толькі адтэрміноўкай больш маштабнага крызісу. Як прызнаюць усе эксперты, у алжырскім грамадстве назіраецца агульны кансенсус наконт таго, што старая аўтакратычная мадэль — анахранізм. «Afrique magazine» параўноўвае настрой у алжырскім грамадстве з «нацягнутай цецівой». Выданне піша: «Падчас сямейных застолляў або сустрэч з іншаземцамі, на кава-паўзах падчас розных канферэнцый, на кулуарных пасяджэннях міністраў, бізнэсняндаках усе канстатуюць адно і тое ж: патрэбныя перамены, патрэбны разрыў з мінулым. Краіна нагадвае атлета, які застыў у пазіцыі «на старт».

Запыт на змены матываваны не толькі тым, што аўтакратыя за амаль палову стагоддзя ўсім добра надакучыла. Нацыя яўна адчувае комплекс перад арабскімі суседзямі, якія ў выніку Арабскай вясны зрабілі вялізарныя крокі ў развіцці грамадзянскай свядомасці — разуменне адказнасці кожнага індывідуума за лёс нацыі. Менавіта ў Егіпце, Лівіі зараз пульсуе дыскусія — хто такія арабы і якое іх месца ў XXI стагоддзі.

Акрамя таго, усе эканамісты, прызнаючы дасягненні рэжыму Бутэфліка (паводле статыстыкі, алжырцы — адна з трох сусветных нацый, чый дабрабыт рос найбольш інтэнсіўна за апошнія 40 гадоў) указваюць на галоўны сістэмны недахоп. Уся эканоміка краіны будуецца на вуглевадароднай рэнце. Калі не будзе дыверсіфікацыі вытворчасці, у 2024-м краіна будзе мець нулявы ВУП (пры Бутэфліка ён складаў тры працэнты на год) плюс цалкам праедзеныя цяперашнія золата-валютныя рэзервы (200 мільярдаў еўра). Залежнасць ад экспарту сыравіны не могуць кампенсаваць ніякія прарывы Бутэфліка, які сапраўды шмат чаго дабіўся. Лепшым прыкладам з'яўляецца запуск першай лініі сталічнага метро. Акрамя таго, пад кіраўніцтвам Бутэфліка за апошнія гады ўладам удалося рэзка знізіць узровень гвалту і практычна задушыць магутны радыкальны рух ісламістаў.

Наўрад ці генерал Махамед Ламін Медзін усур'ёз збіраецца займацца праблемай развіцця новых сектараў эканомікі. Праўда, у вайскоўцаў ёсць адзін джокер. Алжырцы могуць пагадзіцца на захаванне статус-кво, паколькі ў калектыўнай памяці засталася траўма наконт падзей 1990-х гадоў, калі ісламісты пераатварылі краіну ў арэну крывавай грамадзянскай вайны. Акрамя таго, канвергенцыі патрабаванняў грамадства не існуе. Розныя сацыяльныя групы жадаюць рознага: моладзь патрабуе працы і магчымасці для праяўлення творчасці, лева-ліберальная інтэлігенцыя — палітычных свабодаў, вернікі — росту ўплыву рэлігіі на грамадскія інстытуты, бізнэсмэны — меншага кантролю дзяржавы за эканомікай. Няма інтэгральнай праграмы, якая б яднала ўсіх незадаволеных алжырцаў. Няма такога палітыка, якога можна было лічыць Валенсам або Гарбачовым — сімвалам пераменаў.

Пакуль зразумела толькі адно: сітуацыя ў Алжыры застаецца нявызначанай. Магчыма, больш дакладна пра расклад унутры эліты і перспектывы можна будзе казаць 5 ліпеня, калі краіна адзначыць Дзень незалежнасці. Абавязковым атрыбутам святкаванняў будзе вайсковы парад, які звычайны прымае прэзідэнт. У адсутнасць Абдэля Азіза Бутэфліка па ранжыру прысутных на афіцыйнай трыбуне можна будзе зразумець, якая фракцыя ва ўладзе ў выніку можа агучыць імя пераемніка.

АЛЬТЭРНАТЫВА

# КРЫЗІС НА КАНІКУЛАХ

Алег НОВІКАЎ

**6–8 чэрвеня ў Грэцыі адбыўся еўрапейскі з'езд антыглабалістаў, так званы «Альтэрсаміт», што дало шанс запрошанаму на гэту імпрэзу журналісту газеты «Новы Час» паспрабаваць на ўласныя ўражанні акрэсліць партрэт Грэцыі ў часы крызісу.**

Як ні дзіўна гучыць, крызісныя карцінкі ў Грэцыі яшчэ трэба пашукаць. У цэнтры Афінаў, куды спецыяльныя аўтобусы дэсантуюць турыстаў з аэрапорту, няма нічога, што ў нашай свядомасці звязана з тэрмінам «крызіс», — жабракоў, панурых постацяў з таблічкамі «шукаю працу» або маніфестацый раз'юшаных прафсаюзаў.

Грэчаская сталіца выглядае стэрэатыпна, як любы турыстычны цэнтр. Традыцыйна рускія турысты з картамі ў руках блукаюць па звыклым маршруце — на Акропаль і да самых дарагіх буцікаў. Традыцыйна запоўненыя вулічных кавярні: паводле статыстыкі, кожны грэк ахвяруе на піццё кавы каля дзвюх гадзін на суткі. Больш таго: нягледзячы на крызіс, крамы дазваляюць сабе зачыняцца пасля абеду на дзве гадзіны, каб усе супрацоўнікі адпачылі ў цяньку.

Дарэчы, для турыстаў у крызіснай Грэцыі сапраўдны рай. Цэны ў параўнанні з тым жа Крымам або Адэсай проста смешныя. Месца ў хостэле ў цэнтры Афінаў — 7–8 еўра. У сапраўдным гатэлі ў паўсотні метраў ад мора — 20 еўра. Адзінае, што рэжа вока інтурысту ў Афінах — маса паліцыі самых розных фармаванняў — муніцыпальныя, нацыянальныя, рэгіянальныя і г.д. Прычым, большасць з іх пры поўным боекамплекце — зброя, шчыты, бронекамізэлькі. Нашто такая экіпіроўка, цяжка сказаць. Відавочна, што галоўная небяспека ў цэнтры — гэта крадзеж па кішэнях і падман турыстаў. Прыкольна назіраць, як некаторыя іншаземцы клююць на гульню ў карты, якая тут замяняе гульню ў напарстак: трэба здагадацца, пад якой з трох карт хаваецца туз. У людных месцах прайдзісветы раскладваюць пасьянас і «абуваюць» даверлівых, найчасцей з немцаў і амерыканцаў.

Афіны — горад кантрастаў. Сапраўдны крызіс можна пабачыць, калі ад'ехаць ад цэнтра на 3–4 станцыі метро. Кліенты мясцовых крамаў — не багатыя турысты, а звычайныя грэкі. Іх пакупніцкая здольнасць цяпер вельмі нізкая. Таму шматлікія крамы зачыненыя, а жалюзі дзвярэй сталі пляцоўкай для творчасці вулічных мастакоў. Галерэі графіці на жалюзі зачыненых камерцыйных установаў цягнуцца на цэлыя кварталы. Цікава, што ніякага сацыяльнага напружання ў дэпрэсіўных раёнах не назіраецца. Магчыма, таму, што з-за спёкі мала хто паказвае нос на вуліцу.

Яшчэ адным сродкам змяншэння пратэсту з'яўляецца пляж. На мясцовых пляжах поўна маладых людзей, якія ляніва загараюць або рэжуцца ў пляжны футбол і тэніс. Калі меркаваць па прэсе, шмат каму з грэкаў сімпатычныя метады выжывання, якія практыкаваліся ў нас у бурныя 1990-я. Прачытаў, што на днях двум маладзёнам далі 11 гадоў за тое, што яны скралі 100 метраў кабелю недзе на грэчаскай чыгунцы.

«Грэцыя спіць!» — паскардзілася адна з рускамоўных грачанак, з настальгіяй згадваючы палітычна гарачы мінулы год. Сонны стан эліпаў часткова засведчыла і сціплая колькасць удзельнікаў збораў антыглабалістаў. Месца правядзення было вельмі сімвалічнае — спартовы комплекс на поўначы Афінаў, дзе ў 2004 годзе праходзілі алімпійскія гульні. Ёсць меркаванне, што ўсе праблемы Грэцыі пачаліся з той Алімпіяды. У лепшым выпадку, гэтая бетонная канструкцыя выкарыстоўваецца працэнтаў на 30. У лабірынце калідораў стадыёнаў можна лёгка заблукаць з-за адсутнасці любой жывой душы. Кожнаму зразумела, што нехта нарубіў капусты за кошт раздзьмутага бюджэту і адкатаў на замовах будаўнічым кампаніям. Тая Алімпіяда выклікала будаўнічы бум, крэдытную ліхаманку, якія скончыліся банкаўскім крызісам трохгадовай даўніны.

Менавіта з нагоды трохгадовага юбілею краху і сабраліся ў Афінах антыглабалісты. Адначасова з тым крызісам у лексіконе еўрапейскай палітыкі з'явіўся тэрмін «жорсткая эканоміка» (austerity). У яе аснове — ідэя бюджэтнай эканоміі за кошт скарачэння публічнага сектару, сацыяльных правоў і бонусаў. Пакуль ніякіх відавочных поспехаў гэты курс не прынёс ні ў Грэцыі, ні ў іншых краінах. Затое ў Еўропе дзякуючы austerity ўжо 120 мільёнаў чалавек належаць да катэгорыі беднякоў.

На думку выступоўцаў, такая тэндэнцыя стварае ў грамадстве вялікую групу сацыяльных маргіналаў, што позна або рана прывядзе да адмовы ад дэмакратычнай мадэлі грамадства. Альтэрнатывы дзве — або маргіналізаваны электарат прагаласуе за нейкага папуліста, які распачне аўтарытарны эксперымент. Або палітычная эліта паспрабуе дзеля бяспекі абмежаваць удзел бедных грамадзян у прыняцці важных грамадска-палітычных рашэнняў.

Цікава, што на «Альтэрсаміце» шмат казалі пра пагрозу, якую палітыка austerite нясе для будучыні Еўрапейскага саюза. Гэта нешта новае для такіх форумаў левых партый. Раней Еўрасаюз разглядаўся як той Молах, які нішчыць лакальную дэмакратычную палітычную культуру на карысць брусэльскай бюракратыі, звязанай з буйным бізнесам.

Цяпер левыя спрабуюць разглядаць еўраінтэграцыю як моцную зброю супраць росту правых і нацыяналістычных настрояў на месцах. Праўда, на думку левых, каб эфектыўна змагацца з папулісцкай хваляй, трэба рэвізія прынцыпаў еўраінтэграцыі. А менавіта, перш за ўсё, неабходна адмяніць Фіскальны пакт, Мемарандум тройкі і іншыя дакументы, якія вызначаюць цяперашнюю антысацыяльную эканамічную палітыку ЕС. Выхад з крызісу бачыцца ў тым, каб не зніжаць сацыяльныя стандарты, а наадварот, уздымаць іх, каб выклікаць рост попыту і, як вынік, вытворчасці. Адным словам, прымяніць парады Джона Кейнса, з дапамогай якіх перамаглі Вялікую дэпрэсію. Адзіная інавацыя — цяперашнія левыя патрабуюць большага кантролю над банкаўскім сектарам, праз структуры якога грошы могуць збегчы невядома куды.

Усе тэзісы праграмы былі агучаныя ў рамках прэзентацыі так званага «Афінскага маніфесту», якая нагадвала шоў. Палітыкі, сацыяльныя актывісты, феміністы з розных краін па чарзе выходзілі на сцэну, каб выкрыць хібы ненавіснага austerity. Напрыканцы яны добра завялі аўдыторыю. Думаецца, калі б на гэты саміт трапіла Ангела Меркель, ад яе не засталося б і мокрага месца.

Галоўным трыбунам на імпрэзе быў, безумоўна, Алексіс Ціпрас — маладая зорка грэчаскай левай палітыкі. Дзякуючы крызісу яго малавядомая партыя SYRIZA атрымала на леташніх выбарах 27 працэнтаў. Цікава, што 38-гадовага Алексіса не любяць не толькі мясцовыя правыя і фашысты, аднак таксама сталіністы-камуністы, якія напярэдадні «Альтэрсаміту» заклікалі да байкоту імпрэзы, паколькі Алексіс і яго сябры — апартуністы.

Аднак, хутчэй, SYRIZA — не апартуністы, а новая творчая генерацыя левых палітыкаў, якія намагаюцца фармаваць незвычайныя блокі і палітызаваць грамадства, выкарыстоўваючы самыя незвычайныя тэксты. Так, фінальную дэманстрацыю пасля «Альтэрсаміта» SYRIZA ўмудрылася аб'яднаць з нейкім маршам супраць гамафобіі. У выніку на вуліцы ўдалося вывесці вялікую масу тынейджараў, якім чамусьці гэта тэма вельмі блізкая. Натоўп, у ар'ергардзе якога два аголеных мужыка ў кузаве грузавіка бясконца цалаваліся і абдымаліся, дайшоў да будынка парламента. Усё гэта выглядзела як нейкі карнавал. Аднак аказалася, што гэта апошні хвіліны перадышкі.

Праз два дні пасля закрыцця «Альтэрсаміту» на грамадскім тэлебачанні і радыё адбыўся лакаўт. Сітуацыя імкліва абвастрылася. У сталіцы прайшла вялізарная маніфестацыя пратэсту. Прафсаюзы абвясцілі агульны страйк. Чакаючы свайго рэйсу ў афінскім аэрапорце, прачытаў, што палітолагі не выключаюць датэрміновых выбараў у парламент. Грэцыя зноў прачнулася.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### НІК ГРЫФІН



Лідар брытанскай правай радыкальнай нацыянальнай партыі (BNP), дэпутат Еўрапейскага парламенту нечакана быў запрошаны ў Дамаск сірыйскімі ўладамі. Палітык скарыстаўся запрашэннем і наведаў сталіцу Сірыі, дарэчы, разам з групай дэпутатаў з Расіі. З Сірыі ён вярнуўся поўным прыхільнікам Башара Асада. Рашуча выступіў супраць ідэі збройнай дапамогі сірыйскім паўстанцам і назваў Асада галоўным змагаром супраць пагрозы глабальнай ісламізацыі (як вядома, на баку праціўнікаў цяперашняга рэжыму змагаецца шмат ісламістаў, у тым ліку і з Аль-Каіды). Нік таксама рашуча абверг «плёткі», што сірыйскі рэжым на мяжы краху. Дамаск, па яго словах, уяўляе цалкам нармальнае месца, хаця нечым фрагментамі сапраўды нагадвае Белфаст у часы канфлікту паміж ірландскімі католікамі і пратэстантамі. Візіт лідара BNP выклікаў шмат рэфлексій у брытанскіх СМІ. Некаторыя з каментатараў не выключаюць, што Асад нават выказаў гатоўнасць фінансаваць BNP, што вельмі дзіўна з улікам іміджу BNP як партыі антысемітаў і расістаў. Аднак большасць экспертаў лічаць, што Грыфін сам напрасіўся на паездку, каб згуляць на пачуццях страху ў брытанскім грамадстве наконт таго, што канфлікт у Сірыі можа закончыцца вайной Захаду з Асадам з удзелам брытанскіх жаўнераў. Грыфін у такой сітуацыі выстаўляе сябе палітыкам, які выступае за пошук міру і гатовы ўзяць на сябе функцыю пасярэдніка.

### ВАЛЕРЫ КАМАРОЎ



Ініцыятар стварэння ў Латвіі парламенту непрадстаўленых і яго старшыня. Маюцца на ўвазе так званыя неграмадзяне — жыхары Латвіі, якія не маюць латвійскіх пашпартоў, але маюць права на сталае жыхарства ў краіне. А вось правам абіраць і быць абранымі ў сапраўдны латвійскі парламент яны не надзеленыя. Хаця стаць паўнавартасным грамадзянінам неграмадзяніну зусім не цяжка: патрэбна ўсяго толькі здаць іспыт на веданне латышскай мовы, гісторыі і культуры. Аднак шмат хто прынцыпова супраць такой перспектывы. З гэтай сітуацыі і ўзнікла ініцыятыва стварыць для непрадстаўленых свой парламент. Што і было зроблена, нягледзячы на пратэсты латвійскіх нацыяналістаў, якія пабачылі ў выбарах спробу дзяржаўнага перавароту. 15 чэрвеня адбылося першае пасяджэнне, на якім 30 дэпутатаў абралі кіраўніцтва і адначасова засведчылі слабасць руху неграмадзян. Дэбаты падчас сесіі прадэманстравалі, што рускамоўная грамада ў Латвіі не кансалідаваная. Большасць выступае за дыялог з уладай. За кошт галасоў гэтай групы была прынята рэзалюцыя аб прызнанні незалежнасці Латвіі. Другая група — прарасійскія камуністы і панславяне — дасюль марыць аб рэінкарпарацыі краіны ў склад Расіі. На думку аналітыкаў, канфрантацыя ў парламенце непрадстаўленых можа расколоць рускамоўную грамаду, што аслабіць яе пазіцыі ў грамадстве. У сувязі з гэтым Камарова нават называюць агентам латвійскіх спецслужб, які спецыяльна прыдумаў той парламент. Праўда, самі выбары парламента засведчылі, што неграмадзяне — вельмі апалітычная сацыяльная група. З трохсот тысяч неграмадзян абраць парламент прыйшлі толькі каля 15 тысяч.

### ЯРАСЛАЎ КАЧЫНЬСКІ



Яраслаў Качыньскі — лідар польскай правай апазіцыйнай партыі «Права і справядлівасць» (PiS), якая, паводле апытанняў, з'яўляецца фаварытам наступных парламенцкіх выбараў. Між тым, быць палітычным лідарам Качыньскаму падалося замала. Ён выступіў у ролі амаль духоўнага лідара, сабраўшы Агульнапольскі кангрэс каталікоў у Чэнстахове. У сваёй прамове перад удзельнікамі кангрэсу пан Качыньскі заявіў, што сёння мы з'яўляемся сведкамі самай вялікай атакі на Касцёл з часоў камунізму, за якой стаць кіруючыя ў краіне лібералы і левыя, чые пастулаты, на думку Качыньскага, ужо пачынаюць фармаваць ідэалогію ўрада. Лідар «Права і справядлівасці» паабяцаў у рамках пачатай раней PiS кампаніі «Супраць атэізацыі» абараніць каталіцкую паству. Палітолагі лічаць, што занадта клерыкальная лексіка Качыньскага звязана не з атэістычнымі забабонамі ўраду, а з нядаўнім з'яўленнем на палітычнай сцэне Нацыянальнага руху — новай скрайне правай партыі, якая намагаецца прадстаўляць сябе як адзінага паслядоўнага абаронцу каталіцкай грамады. Так, Нацыянальны рух нават спрабуе трактаваць актуальныя падзеі са спасылкай на цытаты з выступаў Папы Рымскага Яна Паўла ІІ, які, натуральна, ніколі не быў правым радыкалам. У сувязі з гэтым прэса байцца, што правыя партыі будуць актыўна ўцягваць Касцёл у палітыку падчас наступных выбараў.

ЭПОХА

# Васіль Быкаў і Рыгор Бакланаў.
# «І ЎСЁ Ж НЕ МОЖА БЫЦЬ, КАБ ЖЫЛІ МЫ ДАРЭМНА»

Сяргей ШАПРАН

**Не часта так бывае, каб пісьменнік станавіўся эпохай, але гэта — абсалютна выпадак Васіля Быкава, які стаўся цэлай эпохай не толькі ў літаратуры, але і ў гісторыі Беларусі.**

Між тым, не бывае, каб нават вялікі пісьменнік існаваў у прасторы і часе адзін, як, зрэшты, і кожны чалавек. І Быкаў не выключэнне — яго сябрамі, у пэўны час ці ледзь не праз усё яго пісьменніцкае жыццё, былі літаратары, якія таксама зрабіліся гонарам сваіх айчынных літаратур: Алесь Адамовіч, Віктар Астаф'еў, Уладзімір Багамолаў, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Анатоль Вярцінскі, Ніл Гілевіч, Сяргей Законнікаў, Уладзімір Караткевіч, Аляксей Карпюк, Мікалай Матукоўскі, Валянцін Тарас.

У гэтым жа шэрагу стаіць і імя Рыгора Бакланава — славутага расійскага пісьменніка, пад уздзеяннем творчасці якога і былі напісаны першыя Быкаўскія аповесці. Знаёмства, якое адбылося спачатку па перапісцы, вельмі хутка перарасло ў блізкае сяброўства. У сяброўства, якое працягвалася сорак гадоў і было спынена смерцю Васіля Быкава роўна дзесяць гадоў таму.




Адзін з апошніх фотаздымкаў Васіля Быкава. 29 мая 2003 г.

## «Дзякуй за твае кнігі, без якіх, магчыма, не было б і маіх»

У 1968 годзе Рыгор Бакланаў, прыгадваючы словы Іллі Эрэнбурга, пісаў, што пра Вялікую Айчынную вайну «будуць створаны кнігі тымі, хто прайшоў яе і каго яна зробіць пісьменнікамі. Так заўсёды было. Вылучаючы сваіх палкаводцаў, кожная вайна вылучае і сваіх летапісцаў». У ліку такіх летапісцаў былі Рыгор Бакланаў і Васіль Быкаў — вайна сталася іх «універсітэтамі», зрабіла з іх пісьменнікаў. А з іншага боку, калі б не было ў жыцці Васіля Быкава равесніка Рыгора Бакланава, хто ведае, якім стаўся б пачатак яго творчага шляху. Сам Быкаў пісаў у адным з лістоў да Бакланава: «Дзякуй за твае кнігі, без якіх, магчыма, не было б і маіх».

Менавіта адна з Бакланаўскіх аповесцей натхніла Быкава, па яго ўласным прызнанні, узяцца за ваенную тэму. Ён распавядаў: «Першая ваенная кніга Рыгора Бакланава ўразіла мяне, як не ўражвалі іншыя прачытаныя да яе кнігі пра вайну. Гэта было ў канцы пяцідзясятых гадоў, яшчэ да з'яўлення яго «Пядзі зямлі», якая зрабіла яго імя шырока вядомым у нашай літаратуры. Назва той яго, дарэчы, не самай папулярнай кнігі — «На поўдзень ад галоўнага ўдару», і расказваецца ў ёй аб некалькіх днях цяжкіх баёў ля возера Балатон у Венгрыі. Гэта таленавіта напісаная аповесць — канцэнтрат суровай праўды аб вайне. Потым з'явіліся іншыя яго аповесці — славутая «Пядзя зямлі», яркая, як успышка ракеты, «Мёртвыя ганьбы не імуць», ёмісты і мудры «Ліпень 41 года», у якіх мінулая вайна паўстала ў новых, не менш праўдзівых і хвалюючых вобразах. Але гэтая першая ваенная аповесць Р. Бакланава з'явілася для мяне надзвычай наглядным прыкладам таго, як непадмаляваная ваенная рэчаіснасць пад пяром сапраўднага майстра ўвачавідкі пераўвараецца ў высокае мастацтва, поўнае харастве і праўды. Ва ўсякім выпадку, з хваляваннем прачытаўшы гэты невялікі твор, я зразумеў, як трэба пісаць пра вайну, і думаю, што не памыліўся».

Так з'явіўся «Жураўліны крык» — з яго літаратурныя крытыкі пачалі адлік знакамітых аповесцей Быкава. Сярод іх была і «Трэцяя ракета», штуршком для стварэння якой стала ўжо прыгаданая Бакланаўская «Пядзя зямлі». Быкаў распавядаў, што «з жарам сеў» за працу, адклаўшы ўсё, што на той час пісаў, адразу пасля таго, як прачытаў аповесць. А ў лісце да Рыгора Якаўлевіча прызнаваўся: «Не ведаю, ці трэба казаць тут, што Вашыя аповесці ў свой час ашаламілі мяне сваім бязлітасным мастацтвам праўды пра вайну, прачытаўшы іх, я раптам зразумеў тое, што цьмяна адчуваў, але, напэўна, не спасціг яшчэ сам, што — не стану хаваць цяпер гэтага — прымусіла мяне ўзяцца за «3 ракету».

## «Запомніце гэтае імя»

У 1960-я гады Рыгор Бакланаў даволі часта падтрымліваў пачынаючага гарадзенскага пісьменніка — так, менавіта ён выступіў з першай ва ўсесаюзным друку рэцэнзіяй на «Трэцюю ракету». Бакланаў пісаў у 1962-м на старонках «Літаратурной газеты»: «Я пачаў чытаць гэтую аповесць уначы, думаючы толькі паглядзець, а прачытаць заўтра. І чытаў ужо, не адрываючыся, да канца. У ёй няма вострага сюжэта, але ў ёй ёсць самае галоўнае: праўда. Толькі чалавек, які перажыў сам, здольны вось так коратка і дакладна напісаць.

Вядома, і мастакі не аднойчы гэта адзначалі, што найцяжэй пісаць праўду. Праўда можа нават служыць меркай таленту пісьменніка. Трэба памятаць, што толькі праўдзівыя кнігі ў поўнай меры ўздзейнічаюць на душы людзей, асабліва на маладыя душы, будзяць у іх мужнасць, веру і волю. Гэтай сілай уздзеяння вызначаецца аповесць «Трэцяя ракета»…

Адна з галоўных вартасцей аповесці — яе чалавечнасць. Складаная чалавечнасць дваццатага стагоддзя, неаддзельная ад дзеяння, ад гарачай нянавісці да ўсяго нягодніцкага на зямлі. Вось гэты моцны струмень чалавечнасці і нянавісці складае сённяшняе, сучаснае гучанне гэтай рэчы.

У літаратуру нашу, якой ніколі не бракавала талентаў, прыйшоў яшчэ адзін таленавіты пісьменнік. Яго завуць Васіль Быкаў. Запомніце гэтае імя. Яно яшчэ сустрэнецца вам».

Гэта былі прарочыя словы. Значна пазней, у 2005-м, Рыгор Якаўлевіч скажа падчас нашай з ім гутаркі: «Аповесць Быкава мяне тады не тое што ўразіла — я бачыў усё гэта на фронце, — але я ўбачыў чалавека, які піша праўду. А ўбачыць праўду ў жыцці, зразумець яе, а пасля яшчэ і напісаць — заўсёды вельмі складана. Тым больш складана было зрабіць гэта ў той час — калі існавала вялікая колькасць «лизоблюдов», якія не пісалі пра тое, што было ў сапраўднасці — не тую страшэнную і жахлівую вайну, да якой мы не былі падрыхтаваныя, а такую вайну, якой яе хацела бачыць начальства. І вось у Быкаве, у гэтай яго маленькай аповесці, я ўбачыў не толькі франтавіка, але і сапраўднага пісьменніка. Таму так і напісаў тады.

Калі я прачытаў «Трэцюю ракету», у мяне было свята: з'явіўся таленавіты чалавек!»

Што ж да літаратурнага ўздзеяння, пра якое распавядаў Быкаў і пра якое пасля неаднойчы пісалі крытыкі, дык Бакланаў быў перакананы: «У лёсе Быкава сваю ролю адыграў, канешне, не я, а яго ны талент, яго схільнасць да праўды. Прайшоўшы вайну, ён шукаў, якім жа чынам распавесці пра гэтую сваю вайну. Так, можа быць, мая рэч і падштурхнула яго да гэтага. Ці, скажам, Віктар Някрасаў, які ўвогуле шмат каго падштурхнуў, усю нашу літаратуру. Не кажу ўжо пра Льва Талстога! Аднак гэта ўзаемны абмен — далей ужо Быкаў уздзейнічаў на многіх.

## «Аднапалчане па літаратуры»

Пазнаёміліся пісьменнікі спачатку па перапісцы. Іх асабістае знаёмства адбылося крыху пазней, да таго ж не адразу: дзіўна, але, убачыўшы ўпершыню Быкава, Бакланаў пасаромеўся падысці да яго — ён прызнаваўся пасля ў лісце: «У 41 год любая праява сарамлівасці выглядае смешна, але што зробіш…»

Пасля было яшчэ шмат лістоў і сустрэч, у другой палове 1960-х, у найцяжкі для Быкава час, Бакланаў неаднойчы спрабаваў распавесці пра творчасць «аднапалчаніна па літаратуры» (такі дарчы надпіс зрабіў Бакланаў на адной са сваіх кніг) на старонках цэнтральных газет — пра «Атаку з ходу», «Круглянскі мост», але кожнага разу яму было адмоўлена ў гэтым. Паводле сведчання самога Рыгора Якаўлевіча, у 1960–1970-я гады ён не толькі імкнуўся выступіць са словам пра Быкава ў друку, але і

непасрэдна звяртаўся ў тым ліку да высокіх партыйных начальнікаў, у прыватнасці, да загадчыка аддзела культуры ЦК КПСС В. Шауры (між іншым, ураджэнца Беларусі, што, як меркаваў Бакланаў, магло адыграць станоўчую ролю ў справе Быкава, але Шаура, які атрымаў у літаратурным коле красамоўную мянушку «великий немой», быў сапраўдным прадстаўніком савецкай сістэмы цэнзурнага кантролю за літаратурай): «Я неаднойчы гаварыў пра Васіля з начальствам розных узроўняў, — прыгадваў Бакланаў, — спрабуючы не тое што абараніць яго, але наўпрост укласці ў гэтыя тупыя галовы ўсведамленне таго, хто ёсць Васіль Быкаў, з кім яны маюць справу!..»

Хоць, зрэшты, было б дастаткова і тых лістоў падтрымкі, якія ішлі ў тыя гады з Масквы ў Гародню за подпісам Бакланава: «Сёння ўначы дачытаў «Мёртвым не баліць». Не магу сказаць, як ты мне блізкі, як хочацца абняць цябе, падзякаваць табе. Так, ім ужо не баліць. Але боль за іх, які ў нас жыве, мабыць, мацней за ўсіх выразіў ты. Так моцна, што часам, калі чытаў, сэрцу было нядобра. Фізічна нядобра»; «Прачытаў я з вялікім задавальненнем тваю аповесць (Размова пра «Атаку з ходу» — С. Ш.), чэсную, дакладную, праўдзівую ад пачатку да канца, за што ёй, відаць, дасталося ў перыяд падрыхтоўкі да друку. Не ведай я, што яна скарочана, я, мабыць, і не заўважыў бы гэтага, таму што аповесць і цяпер выдатная, вельмі хвалюе»; «На свята ў мяне быў падарунак: твая аповесць «Круглянскі мост». Тое, што ты напісаў, — выдатна... Напісаў ты чэсна, мужна, моцна і пра самае галоўнае...»

## «Ну, вось і замкнулася нейкае кола майго жыцця»

Толькі на пачатку 1970-х, калі публічнае ганьбаванне беларускага пісьменніка ў савецкім друку практычна скончылася, калі кадэбэшны нагляд за ім быў ужо не такі відавочны, а ў партыйнага друку паменела спрыту, Бакланаў зноў атрымаў магчымасць выступіць з артыкулам — цяпер ужо пра аповесць «Абеліск» (на гэты раз на старонках «Комсомольской правды»), у сувязі з чым Быкаў пісаў сябру: «Ну, вось і замкнулася нейкае кола майго жыцця, якое было пачата роўна 10 год таму, калі ў «Литературной газете» я прачытаў першую маю маскоўскую рэцэнзію на «Трэцюю ракету» за тваім подпісам. Цяпер у «Комсомолке»... Учора мне пазванілі, але я толькі сёння знайшоў газету, прачытаў і неяк проста расчуліўся — не ад тваёй пахвалы, вядома (хоць і пахвала твая вельмі шмат для мяне значыць), а ад нечага іншага. Напэўна, ад той духоўнай ці, можа, душэўнай еднасці, якая не знікла, а яшчэ больш умацавалася за гэтае, што і казаць, цяжкое дзесяцігоддзе, якое многіх раз’яднала назаўсёды. Я вельмі рады буду, калі ўсё гэта застанецца разам з намі і ў будучым, можа, гэта — адзіная вартая каштоўнасць у наш вельмі неміласэрны час».

Наогул кажучы, беспрэцэдэнтны факт у творчым лёсе Быкава: каб найслынны расійскі пісьменнік не проста выступіў у друку са словам пра "аднапалчаніна па фронту і па лёсу" (цытата яшчэ з аднаго дарчага надпісу Бакланава), але і неаднойчы рэцэнзаваў яго творы. Безумоўна, былі літаратурныя партрэты Быкава і водгукі на яго аповесці, якія належалі іншым вядомым расійскім і савецкім пісьменнікам: Чынгізу Айтматаву, Віктару Астаф’еву, Юрыю Бондараву, Сяргею Залыгіну, Веніяміну Каверыну, Сяргею Смірнову, — але толькі Бакланаў напісаў адразу некалькі артыкулаў, тэмай якіх стала Быкаўская творчасць.

Узаемнасцю адказваў і Быкаў: так, да 50-годдзя сябра ён надрукаваў у газеце «Литературная Россия» нарыс «Верность памяти», а пасля выхаду аповесці Бакланава «Навекі — дзевятнаццацігадовыя» пісаў: «Як і ў папярэдніх тваіх творах («Пядзя зямлі», «Мёртвыя ганьбы не імуць», «Ліпень 41 года»), у гэтай ягонай аповесці праяўляецца зайздросная свежасць памяці аб тых агнявых гадах, якія ўжо так аддаліліся ад нас, несучы ў забыццё многае, што яшчэ нядаўна, здавалася, немагчыма было забыць. Але такая, відаць, асаблівасць чалавечай памяці. На шчасце, сапраўдны мастак не можа сабе дазволіць забыць не толькі важнейшыя падзеі той цяжкай пары, але нават яе, здавалася б, другарадныя дробязі і, што важней за ўсё, — такія важныя для мастацтва моманты, як псіхалогію людзей вайны, іх пачуцці, настрой — свет іх душы».

## «З абурэннем і гневам бачым»

У 1990-я — на пачатку 2000-х, калі пачалася новая, яшчэ больш шалёная і зусім ужо гнюсная кампанія ганьбавання Быкава, Бакланаў зноў не змог маўчаць. Так, калі ў 2001 годзе ў эфіры Беларускага тэлебачання на адрас народнага пісьменніка Беларусі прагучалі зневажальныя абвінавачванні, у расійскім друку, у «Общей газете», з’явіўся адкрыты ліст дзевяці рускіх пісьменнікаў, які падпісаў у тым ліку і Бакланаў:

«Мы, пісьменнікі — ветэраны Вялікай Айчыннай вайны, сябры рускага ПЭН-цэнтра, з абурэннем і гневам бачым, як афіцыёзныя СМІ ў Мінску шальмуюць і травяць Васіля Быкава — гонар беларускай літаратуры. Ён названы імі «Василием, не помнящим родства», «литературным паліцаем» (мы добра памятаем, у якіх выпадках і дзеля чаго ў нас у свой час ішла ў ход гэтая фразеалогія). Высокапастаўленыя ідэалагічныя паліцаі, якія адчуваюць сябе беспакаранымі, з досведу савецкіх гадоў павінны былі б ведаць, што вялікі мастак перажыве іх, назаўсёды застанецца ва ўдзячнай памяці беларускага народа, дзе ім не будзе месца...

Няўжо ганіцелі Быкава спадзяюцца, што ў сённяшняй Расіі ніхто не паўстане на яго абарону? Няўжо спадзяюцца, што настае час рэстаўрацыі сталінізму, калі траўля пісьменніка ў братняй краіне — гэта ўнутраная справа гэтай краіны і яе кіраўнікоў?

Мы спадзяемся, што шальмаванню Васіля Быкава будзе пакладзены канец, яму прынясуць прабачэнні, а імёны сапраўдных завадатараў ганенняў раскрыюцца.

*Р. Бакланаў, К. Ваншэнкін, Д. Гранін, Ю. Давыдаў, В. Кардзін, Л. Лазараў, М. Панчанка, А. Ржэўская, А. Туркоў».*

## «Быкаў застанецца»

Аднак імёны завадатараў названы, канешне, не былі. Таксама не былі прынесены і прабачэнні. Зрэшты, што ў тым дзіўнага? — калі Васіль Быкаў і яго абаронцы ваявалі супраць фашызму, дык кіраўнік краіны, дзе і ганьбілі славутага пісьменніка, праз паўстагоддзя пасля ўсенароднай вайны публічна хваліў Гітлера і той палітычны рэжым, які быў ім усталяваны ў Германіі: «У свой час Германія была ўзнята з руінаў дзякуючы вельмі жорсткай уладзе, — гаварыў Лукашэнка ў інтэрв’ю нямецкай газеце «Handelsblatt». — І не толькі дрэннае звязана ў Германіі і з вядомым Адольфам Гітлерам. Прыгадайце яго ўладу ў Германіі. Нямецкі парадак фарміраваўся стагоддзямі. Пры Гітлеры гэтае фарміраванне дасягнула найвышэйшай кропкі. Гэта тое, што адпавядае нашаму разуменню прэзідэнцкай рэспублікі і ролі ў ёй прэзідэнта. Я падкрэсліваю, што не можа быць у нейкім чалавеку ўсё чорнае ці ўсё белае. Ёсць і станоўчае. Гітлер сфарміраваў магутную Германію дзякуючы моцнай прэзідэнцкай уладзе. Германія ўзнялася дзякуючы моцнай уладзе, дзякуючы таму, што ўся нацыя здолела кансалідавацца і аб’яднацца вакол лідара».

Пры падобных непрыхаваных сімпатыях Лукашэнкі чакаць прабачэнняў у адрас франтавіка Васіля Быкава — тройчы параненага і цудам не расціснутага ўзімку 1944-га ў Кіравагградскім стэпе гусеніцамі фашысцкага танка — справа дарэмная. Адзінае, на што хочацца спадзявацца і сёння, гэта тое, пра што і казаў падчас нашай з ім гутаркі Рыгор Бакланаў: «Я і цяпер лічу, што ўсе тыя «ўверсе», хто думае, што застанецца ў гісторыі беларускай культуры і літаратуры, яны мо-оцна памыляюцца! — Быкаў застанецца... Імёны сённяшніх уладароў застануцца ў заўвагах да кніг гонару беларускай літаратуры — Васіля Быкава». А ў адным з лістоў да сябра Бакланаў пісаў у далёкае замежжа: «...абодва мы з табой не толькі з мінулага стагоддзя, але з тысячагоддзя, якое сыходзіць. Ці прыгадаюць пра нас у далейшым — Бог ведае. Але вось сёння цябе ўзгадваюць: пісьменніка і чалавека Васіля Быкава. Узгадваюць цёпла, па-сяброўску, з любоўю і павагай да ўсяго, што ты зрабіў і робіш. І кнігі твае і імя тваё сёння шмат што значаць для многіх. Дый ты і сам ведаеш, павінен ведаць цану сабе. А за сённяшняе выгнанне табе адплаціцца».

## «Ты — гонар не толькі беларускай літаратуры, ты — гонар і літаратуры рускай»

Ужо калі ішлі апошнія дні Васіля Быкава, жадаючы неяк падтрымаць яго, я патэлефанаваў яго сябрам у Маскву. Зрэшты, «Белорусская деловая газета», дзе меркавалася надрукаваць словы расійскіх пісьменнікаў напярэдадні 79-годдзя Быкава, не выйшла з прычыны, якая ад рэдакцыі не залежала, але спецыяльна для Васіля Уладзіміравіча мы раздрукавалі паласу са словамі падтрымкі ў яго адрас. Было там і віншаванне Рыгора Бакланава: як толькі я патэлефанаваў у Маскву і патлумачыў сутнасць свайго звароту, Рыгор Якаўлевіч адразу пачаў гаварыць, нібыта чакаў званка: «Дарагі Васіль, стары дружа! Я ведаю, што ты хварэеш, я ведаю, што 19-га — твой дзень нараджэння. І я хачу, каб табе ў гэты дзень было лягчэй, і хачу, каб ты паправіўся. Ты — гонар не толькі беларускай літаратуры, ты — гонар і літаратуры рускай. Ты — пісьменнік з сусветным імем і сусветнага значэння. Тое, што ты распавёў пра вайну, і так, як ты распавёў, не шмат хто здолеў зрабіць. Я люблю тваю прозу. У думках я разам з табой. Я кожны дзень думаю пра цябе і жадаю табе шчасця і выздараўлення. Твой Рыгор Бакланаў».

Захаваўшы тэлефонныя гутаркі на касеце, думаў прапанаваць Васілю Уладзіміравічу паслухаць іх якраз 19 чэрвеня, калі да яго ў анкалагічны цэнтр у Бараўлянах прыйшла невялічкая група пісьменнікаў: Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Валянцін Болтач, Анатоль Вярцінскі, Сяргей Законнікаў, Анатоль Кудравец. Аднак Быкаў пачуваўся кепска, і адзіны голас, які ён пачуў 19 чэрвеня з той касеты, быў голас Бакланава: ледзь ён загучаў, дыханне Быкава зрабілася цяжкім — мы падумалі, што Быкаву стала дрэнна, і хацелі выключыць дыктафон, аднак Васіль Уладзіміравіч перавярнуўся на спіну і закрыў вочы рукой — ён працягваў слухаць...

## «Мы былі з ім на адным фронце»

А праз тры дні была чорная дата 22 чэрвеня, і новае, горкае слова Рыгора Бакланава на старонках «Московских новостей»: «Памёр Васіль Быкаў. Нават самому сабе сказаць балюча гэта. Я ведаў, што яму заставаліся ўжо не гады, не месяцы жыцця, а дні. Ён вярнуўся ў Беларусь, каб назаўсёды застацца ў зямлі. А да гэтага — Фінляндыя, Германія, Чэхія. Ён прайшоў вайну, ваяваў з нямецкім фашызмам, а напрыканцы жыцця, гнаны на радзіме, знайшоў прытулак у Германіі. Вось такі лёс...

Шмат гадоў таму я напісаў у «Литературной газете» пра яго першую ваенную аповесць «Трэцяя ракета». Ужо тады было бачна, што гэта пісьменнік вялікага таленту, які шукае праўду. Пасля мы сустрэліся, і высветлілася, што ў Венгрыі мы былі на адным фронце і нават недзе паблізу. І ў мірныя дзесяцігоддзі ў літаратуры мы былі з ім на адным фронце. Гнаны пры савецкай уладзе, ён, які напісаў «Сотнікава», па якім Ларыса Шапіцька зняла свой лепшы фільм «Узыходжанне», які напісаў аповесці «Мёртвым не баліць», «Знак бяды», пісьменнік з сусветным імем, класік беларускай літаратуры, зноў з узыходжаннем Лукашэнкі аказаўся гнаны. Я развітаўся з ім за тры дні да яго 79-годдзя, за шэсць дзён да яго скону: беларускія журналісты пазванілі з Мінска, запісалі на магнітафон і далі яму паслухаць. Ён быў мужны чалавек, і жыў, і паміраў мужна.

Дарагі Васіль, мінуць Лукашэнкі, вялікія і малыя, а ты быў і застанешся гонарам беларускай культуры».


Васіль Быкаў і Рыгор Бакланаў. Другая палова 1960 гадоў. З архіва Сяргея Шапрана

## «Ён такі адзіны»

Наступным разам мы гаварылі з Бакланавым у маі 2005-га. Рыгор Якаўлевіч казаў тады: «Найталенавіцейшы быў пісьменнік. І сціплы. Сціплы па характары, а не паводле таленту. Думаю, сапраўдны пісьменнік ніколі не разумее маштаб свайго таленту. Не тым ён заняты. Сапраўдны пісьменнік заўсёды не задаволены тым, што напісаў, і заўсёды з жалем думае, што вось і ў гэты раз не здолеў напісаць так, як хацелася, — адлегласць паміж тым, што табе бачылася, і тым, што ў выніку атрымалася, заўсёды ёсць. Ва ўсялякім выпадку, у сапраўднага пісьменніка. Зрэшты, мы неаднойчы гаварылі пра гэта з Быкавым... А людзі малаталенавітыя, але моцна прабіўныя — тыя заўсёды ў захапленні ад таго, што напісалі, ад «маштабу» свайго таленту! І калі яны заўважаюць некага, хто таленавіцейшы за іх, адразу ж ненавідзяць яго! Неталенавітыя — зайздроснікі, яны часта помслівыя. У той час як сапраўдны талент толькі радуецца, калі з’яўляецца яшчэ адзін таленавіты чалавек. Вось і ў Быкаве я ніколі не заўважаў незадавальнення ад гэтага... Разумееце, таленту няма чаго асцерагацца, ён жа такі адзіны. Так, могуць быць людзі больш таленавітыя, але ўсё роўна другога такога няма. І тое, што магу сказаць я, — магу сказаць толькі я. Тое, што расказаў Быкаў, — мог расказаць толькі ён і больш ніхто. Якое тут можа быць спаборніцтва, якая зайздрасць?..»

Летам 2007-га з Масквы на мой хатні адрас прыйшоў заказны пакет — з копіямі лістоў Васіля Быкава і кароценькім суправаджальным лістом:

«...Дасылаю Вам частку лістоў Васіля Уладзіміравіча, астатняе здадзена мною ў архіў, у імянны фонд, узяць адкуль не магу: па стане здароўя не выходжу з дому...

Васіля я любіў і люблю яго кнігі. Ён пайшоў, а я затрымаўся на гэтым свеце, але не на доўгі тэрмін.

Жадаю Вам усяго найлепшага.
Бакланаў».

На гэтым нашая сувязь спынілася. Праз два гады Бакланаў пайшоў следам за Быкавым. На адной са сваіх кніг, падараванай сябру, ён некалі напісаў: «І ўсё-такі не можа быць, каб жылі мы дарэмна». І хаця тут гучыць сумненне, але думка гэтая наўрад ці падлягае нават найдрабнейшаму сумненню.

**Друкуецца з невялікімі скарачэннямі. Поўны варыянт — на нашым сайце www.novychas.info**

ТАПАНІМІКА

# СТАРАЖЫТНЫЯ НАЗВЫ — СУЧАСНЫЯ ПРАБЛЕМЫ

Марат ГАРАВЫ

**Гарадскім тапонімам — старажытныя беларускія назвы. Гэтай вострай тэме было прысвечана пасяджэнне анамастычнай камісіі рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» (ТБМ), што адбылося 18 чэрвеня. Штуршком для склікання камісіі сталася сітуацыя з перайменаваннем тапонімаў у Гомелі.**

Як адзначыў старшыня камісіі, вядомы беларускі мовазнаўца і грамадска-палітычны дзеяч Вінцук Вячорка, дэпутаты Гомельскага гарадскога савета напрыканцы траўня прынялі рашэнне аб перайменаванні 78 вуліц, завулкаў, алей і нават тупікоў абласнога цэнтру.

І гэта робіцца, нягледзячы на афіцыйную аргументацыю, што хранічна не хапае сродкаў на масавае перайменаванне, што яно блытае людзей і зрабіць яго тэхнічна складана. Аказваецца, калі вельмі захочацца, то зрабіць гэта ўсё ж такі можна.

Трэба звярнуць увагу на маркуемыя вельмі істотныя змены ў тапанімічным ландшафце цэлага горада, змены, што закранаюць усе яго раёны. Гаворка ідзе не пра нейкі прырэзаны да горада прыватны сектар, як цяпер часта бывае, або прылучаныя вёскі. Гаворка ідзе пра здаўна існуючыя наяўныя вуліцы, як у цэнтры горада, так і на ўскраінах, як мікраралёны, так і прыватны сектар, як ажыўленыя шасэйныя дарогі, так і завулкі.

У гарадскіх уладаў, калі ўжо яны ўрэшце ўзяліся за перайменаванне тапонімаў абласнога цэнтру, была магчымасць вярнуць на мапу горада шыкоўныя старажытныя назвы. Так, Гомель — адзін з нешматлікіх беларускіх прырэчных гарадоў, дзе ёсць спускі: Ільінскі, Гамеюк, Кіеўскі, Баярскі, Крушэўскі, Цыганскі, а таксама яр Дзедна. Да гэтага часу ў горадзе захавалася скрыжаванне старажытных вуліц: Траецкая, Спаская, Дзеканаўская і Рэчыцкая.

Акрамя таго, ад старадаўніх часоў захаваліся ў Гомелі мноства прыгожых мікратапонімаў, у тым ліку назвы ўрочышчаў, ручайкоў і сцежак. Аднак гэтыя мікратапонімы да гэтага часу аніяк не прадстаўлены на сучаснай мапе вялікага горада.

Такім чынам, гарадскія ўлады фактычна праігнаравалі ўсе гэтыя старасвецкія назвы насуперак закону, які патрабуе пры змяненні тапонімаў грунтавацца на скарбах нацыянальнай гісторыка-культурнай спадчыны. Разам з тым, улады Гомеля пры вырашэнні гэтага важнага пытання не звярнуліся да грамадства. Ва ўсякім разе, гомельская грамадскасць не бачыла аб'яваў ні ў газетах, ні ў інтэрнэце, ні на інфармацыйных дошках, што цягам нейкага часу людзі могуць дасылаць свае прапановы. Пры гэтым афіцыйныя ўлады заявілі, што кантактавалі з нейкімі гісторыкамі, імёны якіх засталіся не вядомымі да гэтага часу, як і тое, хто іх дэлегаваў.

Пра змены ў гарадской тапаніміцы для прэсы давала інфармацыю начальніца адрасна-даведачнага бюро ўпраўлення ўнутраных спраў Гомельскага аблвыканкама Тамара Пракоф'ева. Яна патлумачыла карэкціроўку назваў на мапе гораду неабходнасцю стварэння электроннай адраснай сістэмы на падставе закона аб найменнях геаграфічных аб'ектаў. Сярод матываў упарадкавання гарадскіх тапонімаў называлася іх рознае гучанне па-беларуску і па-руску, а таксама немілагучнае гучанне завулку Чыгуначнага, які вырашылі назваць Задарожным.

Каб пазбегнуць такой немілагучнасці, сталі на шлях уніфікацыі назваў, але зрабілі гэта па-руску. І, дарэчы, усё ўпарадкаванне гарадскіх тапонімаў адбылося на карысць рускай мовы. Так, вуліцу Журавінную перайменавалі ў ***Журавлиную***, вуліцу Прамяністую — у ***Лучистую***, вуліцу Сядзібную — у ***Щедрую***.

Такім чынам, ствараецца вельмі небяспечны прэцэдэнт ігнаравання закону і выкідання ўжо наяўных беларускіх тапонімаў з мапы Гомеля.

Трэба таксама мець на ўвазе, што старажытная гісторыя горада да акупацыі яго рускімі войскамі пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 годзе аказалася ў ценю яго імперскага мінулага. Гаворка ідзе пра час, калі Гомель належаў царскім саноўнікам — спачатку Румянцавым, а потым Паскевічам. Прычым сярод апошніх быў «пакарыцель Каўказу» і «ўціхамірнік» нацыянальна-вызвольнага паўстання супраць царскага самаўладдзя 1830–1831 гадоў фельдмаршал Паскевіч-Эрыванькі, граф Іван Фёдаравіч, яснавяльможны князь Варшаўскі.

Трэба мець на ўвазе, што рашэнне гарадскіх уладаў працягнула практыку ўвекавечвання ў тапонімах Гомеля іменаў Румянцавых-Паскевічаў. Так, на гэты раз частка вуліцы Першамайскай была перайменавана ў вуліцу Ірынінскую — у гонар апошняй гомельскай княгіні Ірыны Іванаўны Паскевіч. Такім чынам, дэпутаты Гомельскага гарсавета замест таго, каб вярнуць старажытную назву вуліцы, змарнавалі гэты шанец і аддалі перавагу назве, якая мае дачыненне да гісторыі гораду ў складзе Расійскай імперыі.

Некаторыя перайменаванні з'яўляюцца наогул абсурднымі: завулак Кальцавы — у Крутой, вуліца *Иногородняя 9-я* — у ***Иногороднюю 1-ю***, вуліца Сельмашаўская 7-я — у Гомсельмашаўскую 2-ю. Нармальны чалавек такія змены проста не запомніць, бо за імі не стаіць нічога лагічнага, ландшафтнага, аб'ектнага.

У сваю чаргу, намесніца старшыні ТБМ Алена Анісім прывяла прыклады перайменаванняў гомельскіх тапонімаў, гучанне якіх па-беларуску цяжка ўявіць, або ўявіць немагчыма: ***переулок Песочный, улицы Продольная, Хозяйственная, Банная*** і ***Орудийная***.

З прапановамі, якія былі выказаны на пасяджэнні анамастычнай камісіі ТБМ, вырашана звярнуцца ў Гомельскі гарвыканкам і ў Рэспубліканскую тапанімічную камісію пры ўрадавым Камітэце па маёмасці, гэадэзіі і картаграфіі.

IN MEMORIAM

# ПАМЯЦІ АЛЕНЫ КОБЕЦ-ФІЛІМОНАВАЙ

**15 чэрвеня ў Маскве на 81-м годзе пайшла з жыцця беларуская пісьменніца Алена Рыгораўна Кобец-Філімонава.**



Усяго год, як яна пакінула Мінск. Каб не быць самотнай, перасялілася жыць побач з сынам Дзмітрыем Філімонавым — у свой час вядучым папулярнай беларускай тэлеперадачы «Крок». Перад ад'ездам ёй была задумана кніга ўспамінаў пра дзяцінства, праведзенае ў акупаваным Мінску. Асобныя артыкулы з кнігі пабачылі свет у расійскім часопісе «Русский пионер». Кніга чакае свайго выдаўца.

За сваё жыццё Алена Рыгораўна напісала больш за дзясятак кніг. Асаблівую вядомасць ёй прынеслі кнігі пра Хатынь («Жаворонки над Хатынью» і «Распятая Хатынь»), а таксама кніга «Калі ўцякала сонца» (пра творчасць, жыццё і пакуты яе бацькі, вядомага беларускага драматурга і сцэнарыста пачатку 1930 гадоў мінулага стагоддзя Рыгора Кобеца). Ва ўсіх сваіх творах пісьменніца была гранічна шчырай, гаварыла словам праўды. Не аднойчы яна выступала ў беларускай прэсе як выдатны палеміст.

Тыя, хто ведаў Алену Рыгораўну, назаўсёды захаваюць памяць пра гэту сумленную жанчыну.

**Віктар Хурсік**

*Рэдакцыя «Новага часу» далучае свае словы жальбы і смутку з нагоды зыходу з жыцця Алены Рыгораўны Кобец-Філімонавай. Мы добра ведалі яе. Яна друкавалася на старонках нашай газеты. Выказваем свае шчырыя спачуванні родным і блізкім Алены Рыгораўны.*

ВЫСТАВА

# МІТРАФАН ДОЎНАР-ЗАПОЛЬСКІ — ДАСЛЕДЧЫК ГІСТОРЫІ ТРОХ НАРОДАЎ

**Выстава пад такой назвай адкрылася ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы (ЦНБ) імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.**



Фота аўтара

ЦНБ прадставіла каля ста адзінак захавання XVIII–XXI стагоддзяў са сваіх фондаў: працы Доўнара-Запольскага (кнігі, артыкулы, рэцэнзіі), у тым ліку прыжыццёвыя выданні, літаратуру пра жыццё і дзейнасць даследчыка, кнігі з яго аўтографамі і пячаткамі з асабістага кнігазбору навукоўца, фотаздымкі і ўспаміны з асабістага архіва вядомага беларускага гісторыка і археографа Мікалая Улашчыка. Дэманструюцца таксама копіі дакументаў архіваў Расіі, Беларусі, Украіны. Прычым многія з гэтых дакументаў прадстаўлены ўпершыню.

Падчас адкрыцця выставы навукоўцы адзначалі, што Доўнар-Запольскі стаяў ля вытокаў беларускай нацыянальнай ідэі, падкрэслівалі маштабнасць і грунтоўнасць дзейнасці гісторыка, характарызавалі яго як знакавую постаць, якая аб'ядноўвае народы трох краін, прапанавалі арганізаваць міждзяржаўную камісію па выданні яго спадчыны і акадэмічнай біяграфіі. Выступоўцы называлі яго чалавекам неверагоднага патэнцыялу і веры, асобай, якая можа згуртаваць нацыю, заснавальнікам беларусазнаўства, адным з першым навукоўцаў, які ўбачыў магутны патэнцыял беларушчыны.

Адкрывальнік асобы Доўнар-Запольскага, доктар філалагічных навук Арсень Ліс падкрэсліў вялікую ролю гісторыка ў станаўленні беларускай дзяржаўнасці. «Як чалавек дэмакратычных перакананняў, ён шукаў ісціну і ўсё жыццё ішоў за ёю», — сказаў Арсень Ліс.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 719

Падпісана да друку 21.06.2013. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

(**S**) — матэрыял падрыхтаваны пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Польшча